„Беларускі настаўнік” гэта адукацыйны дапаможнік перш-наперш настаўнікам беларускай мовы ў польскіх школах. Але не толькі. Хочам, каб наш часопіс дапамагаў усім зацікаўленым беларускай адукацыяй, напрыклад, гісторыкам і географам, якія ўводзяць на ўроках элементы навучання гісторыі і геаграфіі Беларусі, але таксама Падляшша. Каб пашыраў сярод настаўнікаў веды пра Беларусь і азнаямляў з новымі метадамі навучання. Хочам, каб гэта была таксама настаўніцкая платформа абмену меркаваннямі, праблемамі, досведам.

Часопіс задуманы Аб’яднаннем у карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову АБ-БА. Яго ідэя ўзнікла ў час працы над „Стратэгіяй развіцця асветы беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы”.

„Беларускі настаўнік” выходзіць раз на паўгода. Запрашаем да супрацоўніцтва. Калі маеце цікавыя сцэнарыі ўрокаў або пазаўрочных заняткаў, урачыстых лінеек, школьных мерапрыемстваў, экскурсій, тэатральных спектакляў, калі ў Вас ёсць цікавыя гульні і дыдактычныя матэрыялы, прапануйце іх, з дапамогай нашага часопіса, іншым. Калі ў Вас узніклі пытанні, звязаныя з навучаннем беларускай мове, пішыце.

Матэрыялы і пытанні дасылайце на наш электронны адрас **ab_ba@poczta.onet.eu**. Часопіс „Беларускі настаўнік” даступны ў Вашых школах і на нашым сайце **www.ab-ba.com.pl**.

# Ад рэдактара

Ёсць такая беларуская прымаўка «Паміраць збірайся, а жыта сей», — сказала Аксана Забужко польскаму радыё Tok.FM. Гэтыя словы прагучалі — па-беларуску — у інтэрв'ю выдатнай украінскай пісьменніцы ў першыя дні вайны. Расійскія бомбы і ракеты паляцелі на Украіну, калі Аксана Забужко прыехала ў Польшчу на прамоцыю зборніка эсэ Planeta Piołun. Здзівіў мяне яе спакойны голас, канкрэтыка выказвання, вера ў перамогу і ўпэўненасць у хуткім вяртанні на бацькаўшчыну. Тое, што так гаварыў Уладзімір Зяленскі, было зразумела. На тое ён прэзідэнт, каб падмацоўваць дух народа. Але пісьменніца? Яна выказвалася як прадстаўніца народа, самаўпэўнена, горда, без бутафорыі. Маўляў, калі кожны з нас будзе рабіць тое, што павінен, усё будзе добра.

Цяжкая (пост) пандэмічная атмасфера, кашмар на польска-беларускай мяжы і ўрэшце агрэсія Расіі на Украіну, крывавая вайна за парогам — ужо толькі гэтага хапае, каб апусціць рукі і чакаць ад будучыні самага горшага. Тым больш, што не маем на гэта ніякага ўплыву. Але пакуль ніхто не забараніў нам па-нашаму арганізаваць свет вакол нас, будзем рабіць сваю справу. І ў выпадку «Беларускага настаўніка» мець надзею, што гэта немалаважны элемент у сферы беларускай адукацыі ў Польшчы.

У гэтым нумары калегі-настаўнікі і вучні ўспамінаюць Людмілу Грыгарук, актыўную настаўніцу беларускай мовы з Гайнаўкі, якая гэтай вясной прайграла барацьбу з невылечнай хваробай. У серыі размоў з былымі педагогамі Ніна Адамюк з Чыжоў расказвае пра свае пачаткі ў школе — як вясковая дзяўчына з сярэдняй адукацыяй кінулася ў вір працы з дзяцьмі і моладдзю. З практычных матэрыялаў, якія можна выкарыстаць на ўроках і пазаўрочных занятках: скарбонка гульняў, смачная азбука, вершы для дашкольнікаў і вучняў першых класаў ды сцэнарый спектакля «Піпі».

Рэкамендую таксама кароткі тэкст пра кніжку сацыёлагаў з Кельцаў і Вроцлава «Іншыя. Беларуская меншасць на Падляшшы», паколькі гэта своеасаблівае люстэрка, у якім можам глянуць на сябе як быццам збоку. Маю надзею, што заахвоціць ён Вас узяць у рукі саму кніжку і ўчытацца ў высновы аўтараў. Яны не заўсёды нам прыемныя, але кампетэнтныя і калі крытычныя, то ў канструктыўны спосаб. Зрэшты, аўтары не адракаюцца ад суб'ектывізму і кажуць, што напісалі кнігу пра крыху «іншых», але абсалютна не чужых ім людзей.

**Мікола ВАЎРАНЮК**

# Любіла ўвесь час быць у руху



Мікола ВАЎРАНЮК



**Ніна Адамюк** (з дому Ваўранюк) — настаўніца-пенсіянерка з Чыжоў. Нарадзілася ў 1958 годзе ў Вялікіх Тыневічах. Працавала ў школах у Кленіках, Гародчыне, Ласінцы, Чыжах, Трасцянцы і Бельску. Грамадская актывістка, дыпламаваная псаломшчыца.

**— Ты ў дзяцінстве марыла стаць настаўніцай?**

— Памятаеш кіраўніка школы ў нашай вёсцы, Вялікіх Тыневічах, Андрэя Ялозу?

**— Слаба. Пасля маіх першых двух класаў, якія я правучыўся не ў школьным будынку, які ў нас называлі Вялікай школай, а ў знятым пакоі ў хаце Пашка, васьмігадовую пачатковую школу ў Тыневічах ліквідавалі. А разам з тым з'ехаў і Ялоза. Ты ўжо тады была ў ліцэі. Памятаю толькі такую карціну, пару гадамі раней, калі вясной ці восенню твая кампанія заседжвалася дапазна на лавачках, а тут раптам адзываўся з боку школы гул «эсхэлькі» (матацыкл польскай прадукцыі маркі SHL) і вы вобмельгам**



З братам Валодзькам



Шасцікласніца з сяброўкай Валяй Селіванюк і братам Колем (5 гадоў)

**шугалі за плот. І там чакалі, пакуль кіраўнік Ялоза не скончыць свайго вечаровага аб’езду вёскі, каб зноў з шумам, а часта і песнямі вярнуцца на лавачку.**

— Вось бачыш, як тады шанавалі і баяліся настаўнікаў.

— **Чаму Ты якраз пра яго спытала?**

— Чамусьці ў нас так было, што ў апошнім класе выхавацельства браў кіраўнік школы. Памятаю, што на адным з выхаваўчых урокаў спытаў ён нас, хто куды пойдзе далей вучыцца. «Ты Ніна мусіш быць настаўніцай», — сказаў на той сустрэчы Ялоза. А я на тое: «Ніколі!» — «Чаму?» — спытаў кіраўнік. «Бо гэта найгоршая прафесія». Чаму я так адказала, нават не ведаю. Мусіць гэта быў такі юнацкі бунт, бо насамрэч я не памятаю, каб я так думала пра прафесію настаўніка. А як цяпер часам спрабую аналізаваць сваё дзяцінства, то бачу, што ў мяне былі дзеля гэтага задаткі. Я бралася за кожную працу на карысць школы, была і ў зухах, і гарцэрах, і за свой абавязак лічыла падцягваць сяброў у навуцы. Тады настаўнікі пакідалі непадрыхтаваных вучняў пасля ўрокаў, але асабліва іх не пільнавалі і ўвогуле з імі не працавалі. То я часта заставалася разам з імі і дапамагала рашаць задачы. Памятаю як Ірку Харкевіч запрасіла да нас дахаты і не выпусціла яе, пакуль мы не зрабілі ўсяго зададзенага па матэматыцы матэрыялу. Выйшла ад нас, калі сцямнела.

— **Ёй жа дадому трэба было ісці кіламетры тры! Праз лес каля Лапухоўкі, а далей праз лугі! Ды і ў іх, на хутары ў Забалацці, тады яшчэ электрычнасці не было.**

— Хто там тады на такое глядзеў. Затое Ірка — двоечніца па матэматыцы — наступнага дня кантрольную работу напісала на чацвёрку. Чым жа гэта не педагагічны поспех? Усе ў класе, а нас

было трынаццаць чалавек, ведалі, што я заўсёды маю зробленую хатнюю задачу і, што падзялюся ёю, калі трэба. Напрыклад Генік Гайдук, які быў з багатай сям'і, пакуль перапіша тое, што было зададзена, даваў мне катацца на сваім ровары. То я на ўсіх перапынках гойсала на ім туды-сюды па вёсцы.

— **Чаму пасля падставоўкі Ты выбрала эканамічны ліцэй у Бельску?**

— У той час сярод вясковай моладзі агульнаадукацыйныя ліцэі не былі папулярныя. Усе хацелі як найхутчэй здабыць прафесію і зарабляць свае грошы. Я спачатку думала пра медыцынскі ліцэй у Бельску, які рыхтаваў медсясцёр. Нават заяву ў чарнавіку напісала. Ніколі яе, аднак, на чыста не перапісала, бо ў той час хтосьці сказаў пра эканамічны ліцэй. Мне вельмі назва спадабалася, яна так сур'ёзна гучала. Здала экзамен і адвучылася. Навука як навука, без праблем.

— **Ты ўвесь час даязджала ў школу з вёскі?**

— Не, паўгода жыла на кватэры. Тата мне яе знайшоў праз нейкага колішняга суседа з Тыневічаў, які перабраўся ў Бельск пасля вайны. Умовы былі добрыя, дзяўчаты, з якімі я жыла таксама ў парадку, але я вельмі сумавала па нашай хаце. Як толькі прыйшла вясна, я стала даязджаць і ўжо так да канца. Мне вельмі адпавядала быць увесь час у руху. Тры кіламетры да аўтобуса, часта бягом, каб не спазніцца. Пасля школы яшчэ бацькам дапамагчы, збегаць па кароў на пашу. І так шэсць дзён у тыдзень, бо тады свабодных субот не было. А ў суботу вечарам яшчэ абавязкова на танцы.

— **Памятаеш, як хадзілі мы разам па кароў? У Смалянку або ў Замосце? Быў час пагаварыць пра ўсяку-ўсячыну, а яшчэ перадачу „Zapraszamy do Trójki" з транзістарнага радыёпрыёмніка па дарозе паслухаць...**

— ... „Monika"...

— **... з круглым шкельцам.**

— Не, шкло там было прамавугольнае, зверху. А настройкі круглыя.

— **Можа і так. Ты лепш памятаеш, бо — здаецца — Ты яго і купіла за свае ўжо грошы. Гэта ўжо мусіла быць пасля Твайго ліцэя, бо я тады вучыў Цябе курыць цыгарэты.**

— Што ты кажаш (*смех*)? Не памятаю.

— **Бо я не праявіў педагагічнага таленту. Зрэшты, не толькі Цябе не навучыў курыць, але і сам не навучыўся. А Ты адразу пасля ліцэя стала працаваць у школе?**

— Не. Хацела далей вучыцца. Але гэтае жаданне прыйшло да мяне даволі позна, у трэцім ці чацвёртым класе. І таму, відаць, палічыла, што не здолею вызубрыць



З сяброўкамі на вуліцы Вялікіх Тыневічаў (пачатак 1970-ых)

матэматыку, якую ўвесь час любіла і падала паперы на рускую філалогію ва Універсітэт Мар'і Кюры-Складоўскай у Любліне. Здала экзамены, але не прынялі мяне, бо не хапіла месцаў. Тады стала на працу ў Хімічным кааператыве Betesca. Так як абрэвіятура БГКТ па-польску.

**— Невыпадкова, бо гэта ж і быў кааператыў Беларускага грамадска-культурнага таварыства. У 1960-я гады арганізацыям нацыянальных меншасцей дазволілі ствараць свае фірмы, каб такім чынам зараблялі на культурную дзейнасць. Але ў 1970-я памянялася палітыка дзяржавы і тыя прадпрыемствы меншасным таварыствам забралі.**

— Во, бачыш, калі я там працавала — ад снежня 1977 да верасня 1978 — ніхто пра такое мінулае не згадваў. Зрэшты, я і сама не вельмі тым цікавілася. Тыя дзевяць месяцаў пераканалі мяне ў тым, што я прадчувала пасля практык у ліцэі — праца ў офісе не для мяне. Не то, каб я з людзьмі не любіла кантактаваць, ці не ўмела з імі размаўляць, але мне проста ў гэтай працы не хапала руху. А тут яшчэ трэба было кватэру зняць у Беластоку, пракарміцца, апрануцца. Не хапала грошай, бо заробак быў невялікі, а ўзяць з дому я не магла і не хацела. І цягнула мяне на вёску. Можа гэта загучыць для кагосьці пафасна, а для іншага смешна, але наша вёска здавалася мне найлепшым месцам на свеце. Многа моладзі было, разам мы, напрыклад будавалі вясковы клуб, разам многа ўсяго арганізавалі. Тут была свая мова, свае песні. Таму і развязала я першую дамову аб працы па сваёй просьбе.

**— Цябе чакала ўжо месца ў школе?**

— Не. Нічога мяне нідзе не чакала. Я крыху мела надзею на працу ў гміне, але пачула, што ў школе ў суседніх Кленіках настаўніца ідзе ў дэкрэт і шукаюць ёй замену. І я вырашыла паспрабаваць. Найперш трэба было пераадолець страх перад дырэктарам Васілём Пучко, якога



чамусьці ўсе там баяліся. Я сабралася, паехала, паразмаўляла і ён сказаў, што з наступнага дня магу прыходзіць на працу.

— **Чаму Ты навучала?**

— Матэматыцы. Часам замяняла настаўнікаў іншых прадметаў. Так склалася, што калі вярнулася з дэкрэту матэматычка, то пайшла радзіць настаўніца рускай мовы і гісторыі. І мне далі яе прадметы. Праца мне вельмі спадабалася. А найбольш, калі старэйшая каляжанка ў сакрэце ад дырэктара (я ж казала, што яго баяліся) дазваляла гуляць з малымі дзецьмі. Мне так хацелася вучыць фізічнаму выхаванню, але якраз гэтага не рабіла. Першы год скончыўся, а паколькі я толькі замяняла іншых настаўнікаў, дык мне нават за канікулы не заплацілі. Але затое запрапанавалі працу ў Гародчыне. Там быў філіяльны пункт Пачатковай школы ў Кленіках, у якім вучыліся дзеці да чацвёртага класа. Дарэчы, я стала там дапамагаць сваёй былой настаўніцы Ірэне Селеванюк.

**— І купіла мапед маркі Romet, каб туды даязджаць з Тыневічаў. Памятаю яго добра, бо потым ён прыйшоўся мне. Спраўны быў, лёгкі і шпаркі. Дарэчы, Ты там вучыла без вышэйшай адукацыі.**

— Да пары. Спачатку прыпомню табе складаную школьную сістэму ў нашай ваколіцы ў той час. Філіял у Гародчыне, як і такі сам у Тыневічах, быў на тэрыторыі гміны Нарвы, але дзяцей адтуль з пятага класа вазілі ў школу ў Кленікі, якая належыць гміне Чыжы. Дык мы ў прафесійных справах падпарадкоўваліся гміннаму дырэктару ў Чыжах. Быў ім тады Эдвард Бай і ён, калі я была ў Гародчыне, запрапанаваў, што пашлюць мяне завочна студзіраваць, а я стану працаваць у Чыжах. Мне да сёння крыху сорамна, бо я стала студэнткай матэматыкі Філіяла Варшаўскага ўніверсітэта ў Беластоку, але ў Чыжы не пераехала. У міжчасе запрапанавалі мне працу ў школе ў Ласінцы Нарваўскай гміны. Паколькі я Ласінку добра ведала і любіла, бо яна ўсяго ў пяці



Моладзь з Вялікіх Тыневічаў праводзіць у войска Сяргея Леўчука (канец 1970-ых)

кіламетрах ад Тыневічаў, то я выбрала гэтую мясцовасць замест Чыжоў, якія ўяўляліся мне канцом свету. Не ведаю, што пра маё рашэнне падумаў Бай, але пазней мы не раз сустракаліся і ён ніколі майго выбару не крытыкаваў.

**— Вы не толькі сустракаліся, а Ты ў рэшце рэшт трапіш да яго ў школу. Але гэта будзе праз пару гадоў. Дойдзем і да таго. Раскажы аднак цяпер пра Ласінку, у якой Табе прыйшлося працаваць пад кіраўніцтвам... Андрэя Ялозы. Памятаў ён, што ты яму ў восьмым класе сказала пра прафесію настаўніка?**

— Не ведаю, ці памятаў, але ніколі да тае размовы не вяртаўся. У нас адразу наладзіліся сяброўскія адносіны. Не ведаю, чаму мы яго баяліся як вучні, але з настаўнікамі ён ніякага бар'еру не ствараў. Хаця сам быў партыйны, нікога не намаўляў уступаць у партыю. Больш ніхто і не ўступіў. Ну і мы ўсе, настаўнікі між сабою і да вучняў на перапынках, гаварылі па-свойму. На ўроках то зразумела, што па-польску.

**— Хаця да Ласінкі ад нас намнога бліжэй чым да Гародчына, але Ты ўжо туды не даязджала.**

— Там былі два школьныя будынкі, праз вуліцу, амаль насупраць адзін аднаго. Паколькі ў самой школе не хапала для ўсіх вучняў месца, дык пасля вайны адкупілі дом багатага гаспадара, які меў і млын, Галабурды. У Ласінцы да канца так тую частку школы называлі: у Галабурды. Там, на падстрэшку, быў пакойчык, у якім я жыла з сяброўкай Яўгеніяй Пятрышык, таксама з Тыневічаў. А раз мы былі маладыя і на месцы, то наша праца не канчалася пасля ўрокаў, але працягвалася і на фармальныя і нефармальныя вечарыны. Мы там ладзілі і культурныя імпрэзы, і спартыўныя. І не толькі для школьнай моладзі, але для цэлае вёскі. Разам з намі працавалі яшчэ дзве маладыя дзяўчыны, Люцына Хадак (сёння Рушук) з Ласінкі і Надзя Іванюк (Асіпюк) з Лапухоўкі. Яны таксама ангажаваліся ў пазаўрочныя заняткі.

**— Ты там адразу стала вучыць матэматыцы?**



З вучнямі ў Ласінцы

— Не, спачатку я атрымала першы клас і як то ў інтэграваным навучанні, вучыла комплексна. На другі год далі мне матэматыку і музыку. Хаця я не ведала ні тэорыі музыкі, ні нот не чытала, але спявала ў гайнаўскім беларускім хоры і ўважліва падглядала дырыжора Аляксандра Лукашука. І стварыла школьны хор, у якім спявалі дзеці не толькі з самой Ласінкі, але і суседніх вёсак: Кавэлы, Навінаў, Катлоўкі, Рэпіскаў. Дзеці без праблем заставаліся пасля ўрокаў на рэпетыцыі. Часта мы іх праводзілі на лавачцы, што выклікала радасць суседзяў. З цягам часу наш хор стаў абслугоўваць не толькі школьныя ці вясковыя імпрэзы, але і гмінныя. Напрыклад, вяртаюцца хлопцы з войска, вітаюць іх у Гміннай управе ў Нарве, а мы забяспечваем артыстычную частку. Заўсёды нейкія ўзнагароды былі на конкурсах беларускай песні. Каб было арыгінальна, я нават нейкі перкусійны акампанемент з банак з-пад піва і гароху прыдумала. Але самае цікавае было, як мы дабіраліся на тыя конкурсы ў Беласток. Ніхто ніякага транспарту не забяспечваў. Ішло нас 30 чалавек на шашу на «пэкаэс». Аўтобусы тады часта былі перапоўнены, не спыняліся на прыпынку. А нам жа трэба было ўсім у адзін улезці. І нeяк даязджалі. І вярнуцца потым неяк мусілі. А як? Нікога гэта не цікавіла. Аднаго разу, калі вярталіся, то амаль цэлую дарогу спявалі кіроўцы беларускія песні.

Арганізавалі многа экскурсій па наваколлі. Хадзілі пехатой і ездзілі на роварах. У сонцы і пад дажджом.

— **Ты раілася з бацькамі, калі ішла працаваць у школу?**

— Не. Ты ж ведаеш, што ў нашай хаце не было такога, што бацькі казалі нам тое ці гэта рабіць. Ды і сказаць мы заўсёды маглі, што думаем. Часам, калі я ўваходзіла ў спрэчку з татам, то заканчвала яе такім чынам: «Тату, вы ж ведаеце, што ў мяне ваш характар і я мушу давесці да таго, каб маё было зверху». Тата пагаджаўся з усмешкай. Можа — я так адчувала — не зусім ім спадабалася тое, што я вярнулася з Беластока, калі там засталіся тыя, што намнога горш за мяне вучыліся, але ніколі не папракалі мяне ў маім выбары.



З вучнямі ў Ласінцы

**— Я памятаю, што тата з гонарам гаварыў: «Ніна ўмее разабрацца з найгоршымі хуліганамі». Не ведаю, адкуль ён ведаў, мо хто пераказваў, што Ты трымаеш парадак на ўроках. І хіба імпанавала яму, што вучыш матэматыцы.**

— Я была перакананая, што мушу чамусьці навучыць, хаця б табліцы множання. І паслядоўная ў сваіх патрабаваннях. Сёння, з перспектывы гадоў бачу, што часта была я занадта суровая. Аказваецца, часта тыя, што можа і не вызубрылі тае табліцы множання, парабіліся бізнесменамі, раней за мяне купілі камп'ютары і навучыліся іх абслугі. Ну але гэта я ўжо раней, яшчэ калі вучыла, зразумела, што кожны чалавек на нешта сваё здольны і не абавязкова рабіць з кожнага матэматыка. Хаця не скажу, калі спатыкаю сваіх былых вучняў, нават тых, каму не ставіла высокія адзнакі, то не ўцякаюць ад мяне на другі бок вуліцы, а вітаюцца, гавораць.

А што тычыцца нашых бацькоў, то яны хіба бачылі, што мне ў школе добра, што я задаволеная працай і жыццём, што я ўвесь час пры справе. Дарэчы, я ж яшчэ стала гміннай раднай. І хаця мяне выбралі з Тыневічаў, то я выхадзіла ў гміне спартыўную пляцоўку пры школе ў Ласінцы. Рабілі яе, зразумела, грамадскім пачынам, з удзелам вясковай моладзі і бацькоў. У спартыўнай дзейнасці моцна памагаў мне Янак Кастэцкі, які на той час займаўся ў арганізацыі LZS (Народныя спартыўныя гурткі). Дзякуючы яму я сарганізавала бясплатныя выезды на басейн у Беласток.

**— А як было з нашым літаратурным дэбютам на старонцы «Белавежы»? То Ты паслала свае і мае вершы, бо ж не я.**

— Тады нашы пісьменнікі многа ездзілі па вёсках. Гэта і Віктар Швед, і Алесь Барскі, і Сакрат Яновіч, і Міхась Шаховіч. А мне ж трэба было на кожнай такой сустрэчы быць. Можа то быў імпульс, каб самой нешта пісаць. Але найважнейшае, бадай, было тое, што да нас у шкоду часта прыязджалі Яніна Чарнякевіч і Вера Валкавыцкая. Вельмі ім падабалася, што ў нас быў беларускі дух, сямейная атмасфера і ангажаванасць бацькоў у жыццё



З мужам Уладзімірам, сынам Пятрусём і стрыечнай сястрой Раісай Ляўчук на лаўцы ў Чыжах

школы. Нашы сустрэчы, бывала, працягваліся доўга, у нефармальнай абстаноўцы. І відаць, я ім нешта паказала і пад іх уплывам паслала ў «Ніву». Разам з тваімі спробамі, ну бо дваім весялей (*смех*). А так папраўдзе, то не памятаю, як гэта было.

Затое памятаю, што выслала цябе на нейкі літаратуразнаўчы конкурс ад імя бібліятэкі ў Ласінцы...

**— ... стагоддзе Купалы і Коласа. Я прадстаўляў там бібліятэку ў Ласінцы?**

— Так. Які гонар ты прынёс, калі стаў лаўрэатам. Кіраўнічка Аля Станько падкрэслівала гэта вельмі моцна.

**— Я да сёння маю сталінскія выданні Купалы і Коласа з пячаткай бібліятэкі ў Ласінцы. Давай, аднак, вернемся да Цябе. Чыжы Табе ўсё-такі былі суджаныя. Выйшла Ты туды замуж і стада працаваць у школе, дырэктарам якой быў Эдвард Бай...**

— ... ён прыняў мяне з адкрытымі рукамі. Дастала, як у Ласінцы, матэматыку і музыку. З матэматыкай усё ясна, але з музыкай было зусім інакш, чым у Ласінцы. Я там



БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 290

Дэбют

МІКАЛАЙ ВАЎРАНЮК.

*Нарадзіўся 2 VII 1966 года. Жыве ў Вялікіх Тыневічах. Закончыў пачатковую школу ў Клейніках, а цяпер вучыцца ў агульнаадукацыйным ліцэі № 9 у Гайнаўцы. Многа часу прысвячае роднай мове і сам займаецца па беларускай літаратуры.*

* * *

Пуста ў галаве —
Ізноў прайшоў дзень,
Які я праспаў.

Чаму ніколі
Не магу папасці ў каляіну,
Якой ідзе жыццё?

Напэўна заўтра
Знайду загублены той шлях
І стане лягчэй.
Ды каму?

* * *

Не — зноў не знайшоў
Напоўненага сэнсам слова,
Сардэчнай ветлівай рукі.

А мне здаецца —
Я нешта сам згубіў,
У пустаце затраціў.

Няўжо на нашай
Стомленай Зямлі
Няма сяброўства
І кахання?

**Мікалай Ваўранюк**

НІНА ВАЎРАНЮК

*Нарадзілася 1 VIII 1958 года, родам з Вялікіх Тыневіч. Закончыла эканамічны ліцэй у Бельску. Працуе настаўніцай у пачатковай школе ў Ласінцы і вучыцца на завочным курсе матэматыкі філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку.*

* * *

Ты — як зорка яркая,
Як сонейка светлае
Уносіш у хату маю
Цяпло душы сваёй.

Мы хадзілі той сцежкаю —
Я — з адной, ты з другой стараны.
І хоць часта віталіся ўсмешкаю,
Ды зусім мы чужымі былі.

А твой позірк больш ветлівы
Увайшоў углыб маёй душы
І мне стала нейк сорамна
Ад вялікай тваёй прастаты.

* * *

Нічога, што сэрца баліць,
Ізноў крывавяць раны.
Глянь у акно — ужо вясна'
Зацвіў бэз і каштаны.

Вясна — сястра надзеі
Можа палечыць і мне сэрца?
І скажа яму забыць
Пра слёзы, пагрозу смерці.

**Ніна Ваўранюк**

не ўяўляла сабе, каб не прыняць удзел у конкурсе беларускай песні, а тут гэта не было нікому патрэбнае. Атмасфера была зусім іншая, усе настаўнікі гаварылі папольску і да вучняў, і адзін з адным. Тым не менш, трапіліся мне музычна здольныя вучні: Хрысціна і Арэк Якімюкі, Уля Карзуновіч, Кася Вішнеўская, Кшысь Сямяцкі. Я нават з імі ў Мінск ездзіла пасля таго, як яны сталі лаўрэатамі конкурсу беларускай песні. І хор стварыла, які праіснаваў пару гадоў. Але ў Чыжах я ўжо так не ангажавалася ў жыццё школы. Больш засяроджвалася на ўроках, на сваім класе.

— **А потым Вы пераехалі жыць у Нарву і ты стала дырэктаркай Пачатковай школы ў Трасцянцы.**

— Усяго на адзін год, бо памерла мая цешча і мы вярнуліся ў Чыжы. Неўзабаве я выйшла на ранейшую пенсію з-за неабходнасці апекавацца хворым сынам Пётрусем.

— **А яшчэ ж Ты працавала ў бельскай «тройцы».**

— Тры гады з паловаю я там была на частцы стаўкі, ужо як пенсіянерка. Потым яшчэ два гады, з 1999 па 2001, вучылася ў Студыі псаломшчыкаў у Гайнаўцы. Дзякуючы гэтаму зразумела, якой дылетанткай была я ў музыцы, калі займалася ёю са школьнай моладдзю. Ратавалася энтузіязмам, ахвотай працаваць і вучыцца. Мне здавалася, што 24 гадзіны ў суткі замала, каб усё зрабіць, усюды паспець. З часам супакоілася.

— **І гэтага Табе жадаю: спакою. Дзякуй за размову, сястра.**

Размаўляў **Мікола ВАЎРАНЮК**



Вялікдзень 1996 года ў Вялікіх Тыневічах. Дзеці злева: Алік Ваўранюк, Аня і Марта Адамюк. Дарослыя: Аліна Ваўранюк, Васіль Адамюк, Марыя Ваўранюк, Уладзімір Адамюк, Уладзімір Ваўранюк, Міраслаў Ваўранюк, Ніна Адамюк

# Кніга пра «іншых», але не чужых[1]

«Гэтая кніга — надзвычай цікавы аналіз крыніц сённяшняга стану нацыянальнай і рэлігійнай тоеснасці беларусаў, якія жывуць у Падляшскім ваяводстве, іх палітычнай, грамадскай і культурнай актыўнасці. Як пабачылі гэта людзі з-за асяроддзя, праз прызму пачутых меркаванняў прадстаўнікоў гэтай супольнасці, публіцыстыкі і навуковых сацыялагічных напрацовак».[2]

Так прафесар Яўген Міранoвіч напісаў пра кнігу *„Inni". Mniejszość białoruska na Podlasiu. Perspektywa politologiczna* пад навуковай рэдакцыяй Агнешкі Касінскай-Мэтрыкі і Рафала Дудалы, якую апублікавала Выдавецтва Універсітэта Яна Каханоўскага ў Кельцах у 2021 годзе. *Na wstępie należy stwierdzić, że Białorusini jako grupa narodowa nie utrwalili się w polskiej pamięci zbiorowej. Na tle innych sąsiadów nadal pozostają stosunkowo mało znani, a fakt, że nazwa Wielkie Księstwo Litewskie obejmowała w przeszłości zarówno Litwę, jak i znacznie większą i ludniejszą Białoruś może prowadzić do terminologicznych niejasności*[3]. Такая *terra incognita* для кожнага сацыёлага падалася б даследчыцкім раем. Тым больш, што яна не за гарамі, а датычыць па сутнасці польскага грамадства, аднае з дзевяці афіцыйна прызнаных польскім заканадаўствам нацыянальных меншасцей. Другім стымулам, рэдактары таго не хаваюць, былі іх асабістыя (станоўчыя) адносіны да Падляшша і ў кніжцы адчуваецца, што выкарыстоўвалі яны не толькі шкельца навукоўца, але і сэрца. Адбылі многа размоў з жыхарамі Падляшша, часта зычліва дазваляючы сваім суразмоўцам ствараць аўтакрэацыю. А два інтэрв'ю, якія выклікалі ў іх вялікае ўражанне і шмат на што адчынілі ім вочы — з Сяргеем Нічыпаруком і Лявонам Тарасэвічам — змясцілі ў асобным раздзеле ў канцы кнігі.

Сяргей Нічыпарук, частка сям'і якога не перажыла крывавага рэйду Рамуальда Райса «Бурага», кажа, чаму балючае мінулае да сёння падзяляе людзей: «Гісторыя ніколі не бывае простым апісаннем мінулых падзей. Хтосьці заўсёды патрабуе палітычнага апраўдання сваіх учынкаў, таму дапісвае да іх гісторыю. Робіць штосьці, што павінна апраўдваць

1 *„Inni". Mniejszość białoruska na Podlasiu. Perspektywa politologiczna,* red. naukowa Agnieszka Kasińska-Metryka, Rafał Dudała, Wydawnictwo Uniwersytetu Jana Kochanowskiego, Kielce 2021.

2 Z recenzji prof. dr. hab. Eugeniusza Mironowicza.

3 *„Inni"*, s. 10.

сённяшнюю дзейнасць дадзенай групы — групы, якая трымае ўладу, або на яе пасягае»[4]. Лявон Тарасэвіч таксама многа расказвае пра складаную гісторыю Беластока і Беласточчыны, і як яна ўплывала на тоеснасць сучасных людзей: «Вы з'явіліся тут крыху так, як нямецкі навуковец на польскіх землях у час падзелаў краіны, які пытаў мужыкоў на вёсцы пра іх тоеснасць. А яны яму кажуць, што якраз учора злавілі паўстанцаў і аддалі іх царскаму войску. Вёска заўсёды бярэ прыклад з двара і г.зв. вышэйшых культур, а тоеснасць пачынаецца з гістарычнай свядомасці. Калі ў каго няма гістарычнай свядомасці нацыі, не будзе і нацыянальнай тоеснасці. А для народу, у якога няма гістарычнай свядомасці, і адпаведна нацыянальнай, тады паказальнікам нацыянальнасці і мовы становяцца грошы»[5].

У святле вышэйсказанага відаць, што без сістэмнай дзяржаўнай фінансавай падтрымкі цяжка захаваць, не кажучы пра развіццё, беларускую культуру і мову. Тым не менш, нават найбольш слушную ідэю можна сапсаваць на этапе выканання. Лявон Тарасэвіч: «Ёсць грошы на беларушчыну. Перапрацоўваюць іх на сто пяцьдзясят спосабаў, ствараюць сотні часта дурнаватых праектаў...»[6]. І тут у кнізе з'яўляецца выраз *folderowa białoruskość*, якую дафінансоўвае дзяржава, якою можна пахваліцца, а якая па сутнасці ані не развівае беларускую культуру, ні не ратуе беларускую мову, а ў выніку не засцерагае беларускую грамаду ад знікнення. Не раз мы, беларусы Беласточчыны, наракалі на *folderową wielokulturowość,* якая абавязвае на ўзроўні афіцыйнага наратыву пра наш рэгіён, а па сутнасці гэта ўсяго слоган, прычым дэкларатыўны, трафарэтны. Лічу заслугай аўтараў, што адвярнулі сітуацыю і падсунулі люстэрка нам самім. І паказалі, што адсеяць зерне ад паловы, якаснае ад пустога, нідзе не лёгка.

Дарэчы, шматкультурнасці Падляшша, паміж стэрэатыпамі і рэальнасцю, прысвечаны асобны раздзел кнігі. Так як і ролі мовы і рэлігіі ў выбудоўванні беларускай тоеснасці. У асобным раздзеле аўтары падрабязна аналізуюць палітычную актыўнасць беларускай нацыянальнай меншасці, пачынаючы з 1989 года да сённяшніх дзён. Заўважаюць уплыў эканамічнай сітуацыі ўсходняй часткі Падляшскага ваяводства на адток з яе моладзі, што таксама не спрыяе захаванню беларускага характару рэгіёна. Яшчэ ў іншым пералічваюць выклікі, перад якімі стаіць беларуская грамадскасць Падляшша сёння. На першым месцы, безумоўна, стаіць асіміляцыя. Высновы тут мала аптымістычныя: *Po okresie lat 90. minionego wieku, obfitujących w wiele twórczych inicjatyw podejmowanych przez nowo powstające organizacje, obecnie sytuacja wydaje się ustabilizowana, gdzie każda z organizacji prowadzi sobie właściwą aktywność kulturalną, oświatową czy religijną. Jednak pomimo tego zaangażowania daje się zauważyć coraz wyraźniej postępującą asymilację ludności białoruskiej, co z kolei przyczynia się do znacznego osłabienia ich działalności: zmniejszyła się oferta podejmowanych*

4 Ibid., s. 255.
5 Ibid., s. 269.
6 Ibid., s. 60.

*inicjatyw, spadła liczba biorących w nich udział uczestników, zawęża się grono działaczy zainteresowanych upowszechnianiem białoruskich wartości narodowych.*[7]

Уражвае колькасць закранутых у кнізе пытанняў, апісаных грамадска-палітычных з'яў і культурных падзей. Тым не менш, аўтары падкрэсліваюць, што змаглі апісаць толькі фрагменты складанай рэальнасці і іх кніга не вольная ад суб'ектывізму[8]. Пэўна сацыёлагі ці гісторыкі ў сваіх вузкіх дзялянках маглі б спрачацца наконт метадалогіі даследаванняў ці высноў, зробленых аўтарамі. Прычым тыя высновы рабіліся не толькі ў выніку размоў з жыхарамі рэгіёна, але і на аснове прачытаных кніг, артыкулаў, інтэрнэт-сайтаў. Бібліяграфія ўражвае.

На канец толькі лыжка дзёгцю ў бочку мёду. Калі чытаем кнігу, надта часта спатыкаем ці то перайначаную назву мясцовасці, ці арганізацы, ці прозвішча. Гэта, вядома, узялося з таго, што аўтары з іншага рэгіёна Польшчы. Тым больш павінны былі даць тэкст для праверкі камусьці «тутэйшаму». Каб дробныя памылкі не адварочвалі нашу ўвагу ад галоўнага ў кнізе, *służącej nie tylko celom naukowym, lecz także mającej uwrażliwić na „innych" wokół nas. Innych nie znaczy obcych*[9].

**(ак)**




7 Ibid., s. 252-253.
8 Ibid., s. 8.
9 Ibid., s. 27.

# Як добра час ад часу


Аліна ВАЎРАНЮК

Як добра час ад часу разгледзець нашы настаўніцкія запасы. Я задумала дакладна папрыбіраць і пазбыцца часткі старых кніжак і часопісаў. Думала хутка справіцца з гэтай працай. Але ж вопыт «часу нястачы», калі цяжка было нешта купіць у краме, затармазіла мяне. Я ўсё ўважліва разглядала, а былі тут і часопісы, якія перадала мне мая мама, ідучы на пенсію. Колькі цікавага і забытага я там знайшла. Цяпер і я памалу збіраюся на «заслужаны адпачынак» і хачу падзяліцца часткаю знойдзенага з маімі маладзейшымі калегамі-настаўнікамі. Выбірайце, што лічыце карысным і патрэбным на ўроках ці пазаўрочных занятках.

Добрай і плённай працы!

*Ад сябе прапаную тлумачэнне некаторых слоў.*

**Аліна Ваўранюк**

## Смачная азбука
## Скорагаворкі

**А а**
Апанаса баба Ала
Ананасам частавала.

**Б б**
Бабка бульбяная, боршч, банан
Будуць на абед табе, Багдан.

**В в**
Вось вам вафлі, вось айва,
Вось вам вінаград, дзятва.

**Г г**
Глог галініцца над логам.
Галя, глянь — грыбы пад глогам.

**Д д**
Дуль вядро Дзяніс прыдбаў,
Дзесяць дзеду дома даў.

Дуля — сорт вялікіх салодкіх груш.

**Е е**
Едзе ў Лепель на мапедзе
Ева з Пецем па абедзе.

**Ё ё**
Ёлка сёння ў цёткі Лёдзі,
Ёсць на ёлцы ёрш на мёдзе.

**Ж ж**
Жора журавіны з журам
Жор пад жоўтым абажурам.

**З з**
У заасад прывезла Зіна
Звярам зефіру з магазіна.

**І і**
Іна ў госці кліча Іру.
Ігар ім купіў інжыру.

**й**
Сойка Зойка, зайку
Дай з капустай сайку.

Сайка — невялікая булка з пшанічнай мукі.

**К к**
Кава не цікавіць Клаву,
Клава з кексам п’е какаву.

**Л л**
Лёня на лімоны ласы,
Любіць хлопчык і кілбасы.

**М м**
Мамалыгай мама Міла
Машу з Клімам пакарміла.

Мамалыга — каша з кукурузнай мукі.

**Н н**
Ніна Ноне і Натану
Наліла графін нарзану.

Нарзан — мінеральная вада.

**О о**
О-го-го, якога омуля
Олі дорыць Коля з Гомеля!

**П п**
Піліп да пернікаў прыліп.
Паеш лепш персікаў, Піліп.

**Р р**
Рыма назбірала розных траў,
Рыжы Грыша рыжыкаў набраў.

**С с**
— Смачная з булкай смятанка! —
Стасю сказала Святланка.

**Т т**
Тортам, труфелямі тата
Таню частаваў на свята.

**У у**
Усе падручнікі адсунь убок,
Урукам пачастуйся, галубок.

Урук — высушаныя з костачкамі дробныя абрыкосы.

**ў**
— Гаў-гаў-гаў! — прачнуўся ваўкадаў.
Ваўкадаў напэўна ўзгадаў.

Ваўкадаў — вялікі паляўнічы сабака.

**Ф ф**
Феня Федзю Федзюку
Фунт фундуе фундуку.

Фундук — арэх ляшчыны.

**Х х**
Хлопчык Хакім з-пад Хівы
Хоча хурмы і халвы.

**Ц ц**
Цукар, цукаты, цукеркі
Цётка купляе для Веркі.

Цукат — зацукраваны фрукт або яго скурка.

**Ч ч**
Чэсь дзяўчат частуе часта
Чабурэкамі і чаем.

**Ш ш**
Саша шмат рашыў шарад.
Што за гэта? Шакалад!

**ы**
Жыць прывык без пасцілы
І без дынь Мартын малы.

Пасціла — збітае фруктова-ягаднае пюрэ з цукрам і яечнымі бялкамі.

**ь**
Кінь, Алесь, каламуціць плынь.
Піць алень ходзіць на Гарынь.

**Э э**
Эскімосу эскімоска Эла
Эскімо электрафенам грэла.

**Ю ю**
Юру любіць Нюра,
Юшку любіць Юра.

**Я я**
Янка пасярод паляны
Ягады бярэ для Яны.

**Уладзімір Скарынкін**

Спадзяюся, можа Вам у класах 1-3 пры нагодзе восеньскіх (садавіна, агародніна) тэм спатрэбіцца гэтае апавяданне.

## Як абед гатавалі

Мама і тата пайшлі ў кіно. А Яўгенку і Аленцы наказалі абед згатаваць. Ну, не зусім абед, а толькі вінегрэт. Бо суп ад учарашняга абеду застаўся, у халадзільнік паставілі.
Тры параныя бульбіны ў лушпайках ляжалі на талерцы, на стале. І два буракі ля іх. І адна морква. А кіслы агурок — асобна, на спадачку.
— Табе дзве бульбіны абабраць, а мне адну, — сказаў сястры Яўгенка.
— Не, — заўпарцілася Аленка. — лепш я абяру адну бульбіну, а ты дзве. Ты ж большы, вучышся ўжо, а я ў дзіцячы садзік хаджу.
— Давай так зробім, — разважаў Яўгенка, — ты абірай бульбіны, а я буракі.
— Добра, — пагадзілася Аленка.
І пачала абіраць параную бульбу. Хутка-хутка. Адну абабрала, другую.
А Яўгенка возіцца з чырвоным слізкім бураком. З малой далонькі бурак стараецца выслізнуць. І Яўгенка прыцісную яго да грудзей, каб не круціўся. Аднак разоў колькі бурак выслізнуў з рук і ажно падскочыў угору, проста ў твар Яўгенку. Нават па носе злёгку стукнуў, вымурзаў.
Аленка як зірнула на брата, так і зайшлася ад смеху:
— Ой, які ты мурзацік!
Яўгенка падбег да люстэрка, зірнуў, сам засмяяўся. Але мыцца не пайшоў.

— Гэта мяне чараўнік з казкі, пан Бурак, пафарбаваў, — растлумачыў ён сястры. — Каб я быў не такі, як усе.
— І я хачу быць адметнай! — пачала падскакваць на адной назе Аленка.
— Калі вельмі хочаш, то бяры другі бурак. А я буду моркву чысціць.
Потым разам крышылі і бульбу, і агурок, і слізкія буракі. Усё перамяшалі лыжкамі.
Мама, прыгатаваўшы абед, мые рукі. А яны не сталі мыцца. Няхай будзе так, як пан Бурак расфарбаваў.
— Вось каб цяпер чараўнік прыйшоў, пагуляў з намі, — услых памарыла Аленка.

**Даір Слаўковіч**

Ніколі ў нашым часопісе не было тэкстаў для самых малых дзяцей, што яшчэ ў садку. Карыстайцеся гэтымі вершамі, калі ласка. Спадзяюся, яны спадабаюцца вашым дашкалятам. Некаторыя, думаю, можна прапанаваць таксама вучням малодшых класаў.

## Маленькі гаспадар

*Мне няма яшчэ пяці,*
*Я хачу хутчэй расці,*
*Я люблю папрацаваць,*
*Дома ўсім дапамагаць.*
*Я чакаў матулю з працы*
*І рашыў падрыхтавацца, —*
*Трэба ёй дапамагчы*
*І аладачкі спячы.*
*Я мукі насыпаў, соды,*
*Яек, масла, трохі мёду,*
*Папярчыў і пасаліў,*
*Трохі супчыку падліў.*
*Паглядзеў я — нешта мала,*
*Ды падкінуў круп і сала,*
*Даў кату пакаштаваць,*
*Ён як кінуўся ўцякаць!*
*Я стараўся для бабулі —*
*Мыў на кухні я каструлі,*
*Доўга мыў і шараваў —*
*Шмат вады паналіваў.*
*І каструлькі паплылі*
*Па вадзе, як караблі,*
*Бабка ў кухню зазірнула —*
*Ледзь сама не патанула.*
*Не сварылася матуля,*
*Не журыла і бабуля,*
*І ты, тата, не крычы —*
*Я ж хацеў дапамагчы...*

**Марына Ермачэнка**

## Асенні матылёк

*Пажаўцелі дрэвы,*
*Жоўтыя кусты.*
*Кружыцца ў паветры*
*Лісцік залаты.*

*Нам здалёк здаецца,*
*Быццам ён жывы,*
*Матыльком садзіцца*
*На дыван травы.*

**Алёша Мінін**

## Блізка ўжо завеі

*Сонейка не свеціць,*
*Зябка ружавее.*
*Лісце носіць вецер,*
*Блізка ўжо завеі.*

*Пакладу лісточак*
*Жоўты за акно я —*
*Будзе ў мяне ўзімку*
*Сонца залатое.*

**Наташа Раманенка**

## Падзяліў

*Меў Валерка*
*Дзве цукеркі,*
*А Ларыска —*
*Ні ірыскі.*
*— Дай адну хоць,*
*Падзяліся! —*
*Не стрымалася Ларыса.*
*З'еў Валерка*
*Дзве цукеркі,*
*А Ларысцы*
*Даў паперкі.*
*— Ах, ты так?! —*
*І з той хвілінкі*
*Не сябруе з ім дзяўчынка.*
*А малюе дзіва-звера:*
*Хай укусіць той Валеру!*

**Расціслаў Бензярук**

## Госць

*Завітаў да Васі ранкам*
*Лепшы сябар Косця.*
*Выхадны ў садку сягоння.*
*Косця ў Васі — госцем.*

*Вася яблыкі, ігрушы*
*Дастае з буфета.*
*І раскладвае на столік,*
*Як дарунак лета.*

*Елі дружна, з апетытам.*
*І Косця зазначыў:*
*— Нашы яблыкі, ігрушы*
*Выраслі на дачы.*

## Вы закрыйце вочы

*Сціхлі ранкам на двары*
*Галасы-званочкі.*
*Дзеці ў хованкі гуляюць,*
*Ходзяць ціха, моўчкі.*

*А Антось за кусцік стаў,*
*Тайна пазірае,*
*Хаваецца хто куды —*
*Міша, Косця, Рая.*

*Як заўвагу ён пачуў,*
*Сцішана рагоча:*
*— Каб не бачылі мяне,*
*Вы закрыйце вочы.*

## Што скажу я...

*Захацелася Валерку*
*Па абедзе мыць талерку.*
*Цёплаю вадой з-пад крана*
*Мыў ахвотна і старанна.*
*А, памыўшы, выцірае,*
*А яна, нібы жывая,*
*Слізганула з рук ягоных*
*І... разбілася са звонам.*
*Устрывожаны Валерка:*
*— Новая ж была талерка.*
*Што скажу я маме, тату?*
*Я зусім не вінаваты.*

## Мама вінавата

*— Што ты ў садзік не хадзіла? —*
*Запыталі ў Наты.*
*Памаўчала яна крышку:*
*— Мама вінавата.*
*— А чаму?*
*Маўчыць дзяўчынка,*
*Потым кажа шчыра:*
*— Не хварэла б, каб матуля*
*Не дала... «Пламбіру».*

## Дзе ж яго зярняты?

*Чуў ад таты Коля:*
*— Дожджык сее, сее...*
*Што ж гэта такое,*
*Ён не разумее.*

*Надышлі хмурынкі,*
*Крыху пацямнела,*
*Бліснула маланка,*
*Злёгку загрымела.*

*Выбег ён на ганак —*
*Падалі дажджынкі —*
*І прасцёр далоні,*
*А на іх — расінкі.*

*І такі вясёлы*
*Ён бяжыць да таты:*
*— Дожджык сее, сее,*
*Дзе ж яго зярняты?*

## Чаравікі

*Выхавацельніца кажа:*
*— Апранайцеся лягчэй,*
*На прагулку пойдзем, дзеці,*
*Сабірайцеся хутчэй.*

*Высыпалі ўсе на дворык,*
*Ранак сонцам зіхаціць.*
*Толькі Зоя засмучона,*
*Прыпынілася, стаіць.*

*На яе сябры зірнулі*
*І ажно здзівіліся,*
*Вова мовіць: «Чаравікі*
*Зоі пасварыліся.*

*Глянцавітыя наскі*
*Разышліся у бакі.*

*Пераблытала абутак,*
*Выйшла так з пакоя».*
*Зоя крышку счырванела:*
*— Ну і што такое?*

*Чаравікі паміру я, —*
*І яна ўсміхнулася.*
*Села хуценька на ганак*
*І... пераабулася.*

## Папрок снегу

*Камякамі падаў снег,*
*Замятаў дарогі.*
*Крочыў з садзіка Алег,*
*Затаміў ён ногі.*

*Прыпыніў ля дома крок,*
*Радасны, цярплівы,*
*Снегу выказаў папрок:*
*— Ну ты й дурасліві!*

## Нехта ж бачыў

*Матацыклы і машыны*
*Пралятаюць безупынна.*
*Святлафор зялёным вокам*
*Мірганyў — і ўсё навокал*
*Сціхла. Чэргі пешаходаў*
*Крочылі без перашкоды.*
*Борздзенька ішоў Мікола,*
*Бо яго чакала школа.*
*Толькі на асфальт ён выйшаў,*
*Ля бабулі крокі сцішыў.*
*Прыпыніўся і пачціва:*
*— Я дапамагу ісці вам.*
*І вядзе яе паволі.*
*— Дзякую табе, саколік.*
*І нясе нялёгкі кошык:*
*— Дзякуй, дзякуй, мой харошы.*
*Ён у школе па сакрэту*
*Расказаў сябрам пра гэта.*
*— Што ты добры, — гаварылі, —*
*Каб другія пахвалілі.*
*Хлопчык з радасцю зазначыў:*
*— Што я добры, нехта ж бачыў.*

**Паўлюк Пранужа**

## Бывай, наш любімы садок!

*Бывай, наш любімы садок!*
*Бывайце, пясочніцы й мішкі...*
*Спяшаемся мы на ўрок,*
*А ў ранцах — пеналы і кніжкі.*

*Бывай, наш любімы садок!*
*Тут гульні закончаны нашы...*
*І кліча вясёлы званок,*
*І наша даедзена каша.*

*Любімы садочак, бывай!*
*Ты сніцца нам будзеш уночы...*
*І ты хоць калі ўспамінай*
*Пра нашы вясёлыя вочы.*

*Давайце, давайце гуляць,*
*Валодзька, Алінка і Саша!*
*Нас будзе ў садочак вяртаць*
*Вось гэтая песенька наша.*

*Птушаняткі падрастаюць —*
*І гняздзечка пакідаюць,*
*І да сонца адлятаюць:*
*Надакучыла сядзець!*
*Хай тым радасна расцецца,*
*Хто ў садочку застаецца —*
*Ну, а нам пара ляцець.*

**Іван Ждановіч**

## Верасень

*Травы ў кроплях срэбнае расы,*
*Дрэвы непрыкметна пажаўцелі,*
*Заціхаюць птушак галасы, —*
*Івалга з малінаўкай адпелі*
*Песні, што звінелі на зары*
*І будзілі сонечнае ранне:*
*Птушкі адляцелі да пары,*
*Каб вярнуцца ўвесну на спатканне.*
*Кружацца і падаюць лісты —*
*Ліпавы, бярозавы, кляновы,*
*І плыве, плыве туман густы*
*Ў задуменны ранак вераснёвы.*

## Грыбасей

*Дождждык, дождждык-грыбасей,*
*Не лянуйся: сей і сей,*
*Шчодра палівай дубы,*
*Каб спарней раслі грыбы,*
*Дужыя, крамяныя,*
*Кожнаму жаданыя.*
*Я вазьму лазовы кошык,*
*Навастру сталёвы ножык,*
*Абыду ўсе хмызнякі*
*І знайду баравікі.*

*Так уласнае заданне*
*Я выконваю штораняя.*

**Сяргей Грахоўскі**

## Сонечны зайчык

*Сохнуць кветкі,*
*Жоўкнуць травы,*
*Вее вецер*
*Неласкава,*
*З дрэў сілком*
*Лісты зрывае,*
*Сум і скруху*
*Навявае.*

*Ды надарацца*
*Часіны:*
*Пад асеннім*
*Небам сінім*
*Праляцаюць*
*павуціны*
*І садзяцца*
*На асіны,*
*І на вольхі,*
*І на сосны.*
*Павукі*
*Паркаль дзівосны*
*Ткуць,*
*Прыгожыя тканіны*
*Рассцілаюць*
*На даліны,*
*На быльнёг,*
*Лазу, асокі*
*І ўзнімаюць*
*Да аблокаў.*

*Лета бабіна —*
*Лагода —*
*З цёплай ласкаю*
*Пагода:*
*І не холадна,*
*Не парна,*
*І не горача,*
*Не хмарна.*

*У блакіце*
*Хоць купайся*
*І глядзі,*
*І суцяшайся...*
*Чырванеюць*
*Арабіны,*
*Спеюць*
*Ягады ажыны,*
*Выглядаюць*
*З-падігліцы*
*Ў кропельках расы*
*Брусніцы.*
*Восень —*
*Шчодрая багаццем,*

*Гарбузоў*
*У сельскай хаце*
*І паўнютка*
*Памідораў,*
*Сліў і яблык,*
*Грушаў — горы.*

*Надышла для вучняў*
*Праца,*
*Школа кліча*
*Іх старацца,*
*Каб у дзённіках*
*Пяцёркі*
*Не сыходзілі*
*Ў Рыгоркі,*
*Ні ў Аксінні,*
*Ні ў Дзям’яна,*
*Першакласніка*
*Рамана,*
*Другакласніка*
*Сымона*
*І паслушнае*
*Алёны.*

*Позняй восенню*
*Зазімак —*
*Час канікул,*
*Адпачынак,*
*Калі*
*Першыя сняжынкі*
*Лётаюць,*
*Нібы пярынкі,*
*І ў дзяцей*
*У яснавокіх*
*Палымнеюць ж*
*Жарам шчокі.*

*Ходзіць сонейка*
*І свеціць*
*І працуе —*
*Хто прыкмеціць?..*
*Вечна ў клопатах*
*Занята,*
*Сее ўсім*
*Дабра зярняты.*
*Цуда-промні —*
*Залацінкі,*
*Што мільгаюць,*
*Як іскрынкі.*

**Авяр’ян Дзеружынскі**

# Замарылася

*Вам прызнаюся, люблю,*
*Каб мяне хвалілі.*
*Нешта важнае раблю*
*Кожную хвіліну.*

*Як вазоны палівала,*
*Я вады не шкадавала.*
*Так старанна паліла,*
*Што й падлогу заліла.*

*На пліце абед варыла,*
*Не зварыла, а спаліла.*
*Вінаваты тэлефон —*
*Да сябе паклікаў ён.*

*Як зарадку я рабіла,*
*Лямпу скінула, разбіла,*
*З братам пасварылася —*
*Дужа замарылася.*

# Мабільнік

*Пачаў насіць Міколка*
*Мабільны тэлефон.*
*І ведае ўся школа:*
*Заганарыўся ён.*

*І кніжак не чытае*
*Ўжо з моманту таго,*
*Як «цацка» дарагая*
*З’явілася ў яго.*

*Мабільнікам заняты,*
*Прыгоды стаў шукаць*
*І школьныя заняткі*
*Спакойна прапускаць.*

*Цяпер няма ні ў школе,*
*Ні дома ціхіх дзён...*
*Вось што прынёс Міколку*
*Мабільны тэлефон.*

**Васіль Жуковіч**

# Скарбонка гульняў

Уапошні час не раз чула апытанку (і нават флэшмоб быў запушчаны ў сацсетках) на тэму „Як вы пачалі размаўляць па-беларуску?”. У кожнага свой асабісты досвед. Але ж у дарослых людзей пераход на родную мову адбываецца звычайна свядома. А якім жа чынам у дзяцей? Як паказвае вопыт, праз асяроддзе. Вядома, гэта адбываецца натуральна, калі дома размаўляюць па-беларуску, але ж бывае, што носьбітам роднай мовы з’яўляецца і школа, калі там шчыруюць настаўнікі. У нашай рэчаіснасці гэта зрабіць вельмі складана, калі гадзіны мовы і літаратуры дзеляцца папалам, а то і няроўна, калі матэрыял у падручніку занадта складаны і нецікавы.

Для мяне чароўным дапаможнікам у гэтых абставінах з’явіліся настолкі. Менавіта яны дапамагаюць зрабіць працэс навучання лёгкім і прывабным. Думаю, што не я адна такая дасведчаная, і мне вельмі добра зразумела, як гэта складана літаральна да кожнага ўрока распрацаваць гульнявы матэрыял ды яшчэ і зрабіць яго сваімі рукамі. Таму прапаную ўсім жадаючым ужо гатовыя напрацоўкі ў выглядзе **праекта „Скарбонка гульняў”**. Падрабязна разглядзець іх можна на сайце **skarbonkagulnjau.net** Раю далучыцца да суполкі „Скарбонка гульняў” на FB або ў інстаграме **//www.instagram.com/galko_n_/**, дзе я выкладваю навіны, відэа з урокаў, распавядаю, як найлепшым чынам выкарыстоўваць гульнявы матэрыял і г.д.

„Скарбонка” змяшчае: **граматычныя** настолкі (яны паспрыяюць замацаванню асноўных правіл граматнага маўлення і пісьма), **тэматычныя** (яны дапамогуць засвоіць розныя лексічныя раздзелы маўлення), **навучальныя** (для навучання грамаце і развіцця чытацкіх кампетэнцый), а таксама гульні **„на ўсялякі выпадак”** (іх можна выкарыстоўваць з рознымі мэтамі і дзе заўгодна — як на занятках, так і па-за імі).

Кожная настолка складаецца з набору картак, правіл, якія ўтрымліваюць не менш за пяць варыянтаў, у некаторых ёсць слоўнік-дапаможнік, загадкі, віктарына альбо дадатак-расфарбоўка. То-бок, выкарыстоўваць іх можна не раз і не два, а творчыя настаўнікі прыдумваюць яшчэ і свае варыянты ўжывання картак. Некаторыя настолкі з’яўляюцца ўжо гатовай асновай для правядзення цікавага пазакласнага мерапрыемства.




Нягледзячы на тое, што аснова ўсіх настолак — карткі, амаль што ўсе яны адрозніваюцца па напаўняльнасці і змесце, які залежыць ад пастаўленых мэт. Напрыклад, гульня „Жывыя літары" ўтрымлівае карткі з літарамі і выявамі, назвы якіх з іх жа і пачынаюцца. Мы можам з яе дапамогай вывучыць літары, а таксама складваць з іх цэлыя словы. Мне падабаецца актыўны варыянт, калі вучні дзеляцца на каманды, кожны ўдзельнік атрымлівае сваю літару (або дзве). Я загадваю загадку, каманда павінна адгадаць яе і як мага хутчэй скласці „жывое слова" — для гэтага кожнаму трэба стаць са сваёй літарай у пэўным парадку.

У настолцы „Хто там" я прапаную прачытаць словы на дзвярах і з дапамогай асацыяцый здагадацца, што або хто схаваўся на адваротным баку карткі. Акрамя гэтага, словы і малюнкі падабраны такім чынам, каб мы маглі знайсці лагічныя пары. А яшчэ магчыма выкарыстаць гэты матэрыял для развіцця маўлення: скласці сказы або міні-гісторыі з абранымі словамі.

Між іншым, ёсць гульні, падобныя па напаўняльнасці і змесце. Да іх адносяцца некаторыя тэматычныя: „Жывёльны свет", „У кватэры", „У горадзе", „Нашы кветкі", „Гардэроб", „У садзе, лесе, агародзе". У іх склад уваходзяць выявы, якія адносяцца да пэўнай лексічнай тэмы. Карткі з выявамі падзелены на некалькі частак, на якіх з другога боку напісаны склады-часткі слова. З імі можна гуляць па прынцыпе „складавога лато", „знайдзі частку слова", „узгадай слова па яго частцы" і г.д.

Агульны прынцып пабудовы гульні выкарыстаны і ў серыі „Пары": „Пары па-беларуску" (тры розныя варыянты), „Пары-сінонімы" (таксама тры



— кожная з рознай часцінай мовы), „Пары наадварот" (з антонімамі). Я прапаную як магчымыя варыянты гульні „Лато", „Мэмары", „Кракадзіл". Гэтыя ўсім знаёмыя аналагі даюць магчымасць не марнаваць на ўроку шмат часу на тлумачэнне правіл і актывізуюць літаральна ўсіх дзетак.

Акрамя сваёй галоўнай мэты — матывацыйнай — настолкі могуць вельмі ШМАТ: развіваць увагу, памяць, лагічнае і творчае мысленне, уменне працаваць у групах, а самае галоўнае — ствараць цудоўны настрой, чаго я вам вельмі зычу ад усёй душы!

Спадзяюся, што праект стане дапаможнікам для ўсіх, хто разумее еднасць паміж словамі РАДЗІМА і МОВА, хто застаецца беларусам, нягледзячы на тое, у якой краіне ён жыве. Будзем РАЗАМ!

**Наталля Галко**

P.S. Паважаныя калегі, буду вельмі ўдзячна за адваротную сувязь: фота, відэа з заняткаў, вашы асабістыя прыклады выкарыстання матэрыялу альбо прапановы па супрацы.

З павагай, Н. Г.

# Піпі Доўгаяпанчоха



Сцэнар на аснове Астрыд Ліндгрэн
пераклад на беларускую мову Аліна Ваўранюк.

Спектакль "Піпі" знойдзеце тут: https://www.youtube.com/watch?v=9Qgh1L8MO0M

## Сцэна 1

**Томі** Чаму ты ідзеш задам наперад?

**Піпі** Мы жывем, здаецца, у свабоднай краіне. Кожны можа хадзіць як хоча.

**Томі** Але коні звычайна жывуць у стайні.

**Піпі** Звычайна, ну так!!! А так звычайна адкуль ты жывеш?

**Томі** Мы жывем па-суседску, Аніка і я.

**Піпі** «Аніка і я». Супер. А як тваё імя?

**Томі** Томі!

**Піпі** Томі і Аніка! Я ўпэўненая, што мы будзем класна гуляць.

**Аніка** І я так думаю. А як цябе завуць?

**Піпі** Мяне завуць Папілота Прывізія Рульгардзіна Кудламята Эфраімаўна Доўгаяпанчоха.

**Томі** Як складана!

**Піпі** Называйце проста Піпі! Хіба зможаце.

**Томі** У цябе малпа! Як яе клічуць?

**Піпі** Спадар Нільсан.

**Аніка** Спадар Нільсан. Які ж міленькі!

**Піпі** Ён бывае надта непаслухмяны. Некалі ў Шанхаю ўцёк ад мяне і працаваў у нейкай старэйшай жанчыны. Яна была ў захапленні ад яго. Спадар Нільсан робіць вельмі смачныя катлеты!

**Аніка** Сапраўды? Гэта немагчыма.

**Піпі** Так. Я маню.

**Аніка** Маніць кепска.

**Піпі** Так, дужа кепска. Але, скажу вам, у Конга няма аніводнага чалавека, які гаварыў бы праўду. Яны брэшуць цэлыя дні.

**Аніка** Сапраўды?

**Піпі** Так. Пачынаюць а сёмай раніцы і не спыняюцца да захаду сонца. Але мы ж можам сябраваць, хаця я трошачкі зманю?

**Томі** Вядома!

**Аніка** Цешуся, што ты тут пасялілася.

**Томі** Мы хіба павінны прывітацца з тваімі бацькамі?

**Піпі** Гэта складана. Мая мама анёл і жыве ў небе, а бацька капітан піратаў. Не ведаю, дзе ён цяпер.

**Томі** Ты тут жывеш зусім адна?

**Піпі** Ясна, што не адна. Спадар Нільсан і конь таксама тут жывуць.

**Аніка** А хто ж тады кажа табе, калі класціся спаць, і ўсё такое?

**Піпі** Я сама. Спачатку кажу зычліва: «Малая Піпі, час ісці спаць». Але я не слухаюся, дык даводзіцца паўтараць трохі больш строга: «Піпі, ты чула, што я сказала? Я сказала, каб ты ішла спаць». Ну, а калі зноў не слухаюся, крычу: «Ты паскуда — марш у ложак!» І тады...

**Томі** Яна сапраўды шалёная.

**Аніка** Мне яе шкада, у яе няма ні мамы, ні таты.

**Піпі** Як жа няма? Я ж сказала, што мая мама сядзіць у небе і глядзіць на мяне праз малую дзірачку. «Мама, не хвалюйся! У мяне заўсёды ўсё добра!».

**Томі** Усё ж такі яна не жыве.

**Аніка** А твой бацька? Ты сказала, што ён пірат. Гэта ж хлусня.

**Піпі** Гэта якраз праўда. Усё жыццё я плавала з бацькам на караблі, праўда? Таму, хіба добра ведаю ці ён пірат, ці не?

**Томі** Але ж ты сама сказала, што не ведаеш, дзе ён цяпер.

**Піпі** Гэта з-за шторму на Карыбах. О, гэта быў сапраўдны шторм! Нават акулы хварэлі марской хваробай і хацелі выйсці на бераг. І была такая хваля — шуууууу!!!!!! І змыла татку за борт. І з таго часу я яго не бачыла.

**Томі** Напэўна патануў.

**Піпі** Вядома, што не патануў! Такі вялікі, тоўсты, дужы пірат як мой бацька не можа так звычайна патануць. Мора выкінула яго на нейкую выспу.

**Томі** Гэта ты так думаеш!

**Пiпi** Дакладна так думаю!

**Томі** А мо з'ела яго акула?

**Пiпi** А мо тата з'еў акулу? І сядзіць цяпер на пляжы, ікае і калупае ў зубах, і раптам праплывае побач яго карабель і ... ён выратаваны! І прыедзе тут па мяне.

**Аніка** Я думаю, што ўсё ж такі патануў.

**Пiпi** Не кажы такое, Аніка. Хіба не хочаш забраць мне бацьку, праўда?

**Аніка** Вядома ж, не. Прабач. Я не хацела так сказаць. Вельмі па ім сумуеш?

**Пiпi** Так... ноччу, калі ляжу ў ложку.

**Томі** Бедная Пiпi!

**Пiпi** Годзе ўжо, не перажывайце. Ён некалі знойдзецца.

**Томі** Будзем спадзявацца.

**Спадарыня Сэтэргрэн** Томі! Аніка!

**Аніка** Мама, мы ўжо ідзем! Нам трэба абедаць. І брацца за ўрокі.

**Пiпi** Ідзіце, каб заўтра зноў прыйшлі. Вазьмі сябе ў рукі, спадар Нільсан! Шмат у каго з дзяцей няма бацькі.

**Пiпi** А цяпер будзем печы блінечы,
а цяпер прыгатуем блінуем,
а цяпер мы пасмажым блінажым!

**Спадарыня Прысэліюс** Хопіць ужо! Хопіць мая дарагая! Я хачу з табой пагаварыць!

**Пiпi** Сапраўды? Дык калі ласка!

**Спадарыня Прысэліюс** Мяне завуць Спадарыня Прысэліюс. Я старшыня Камітэта абароны дзіцяці ў гэтым горадзе.

**Пiпi** «Старшыня». Гучыць даволі нудна. «Камітэт абароны дзіцяці». Гэта таксама нудна. Якія вы бедныя. Хочаце нешта салодкае?

**Спадарыня Прысэліюс** Не, дзякую.

**Пiпi** Але ў сярэдзіне смаката! Сапраўды!

**Спадарыня Прысэліюс** Хопіць! Я ж сказала, што хачу з табой пагаварыць. Як цябе завуць?

**Пiпi** Як мяне завуць? Папілота Прывізія Рульгардзіна Кудламята Эфраімаўна Доўгаяпанчоха. Не перажывайце. Мае сябры клічуць мяне проста Пiпi.

**Спадарыня Прысэліюс** Ну добра. Ці ты ведаеш малая Пiпi, што людзі ў горадзе гавораць, што ты жывеш тут зусім адна? Гэта праўда?

**Пiпi** Вядома ж!

**Спадарыня Прысэліюс** Небарака. Мы вымушаны гэтым заняцца.

**Пiпi** Заняцца гэтым? Навошта?

**Спадарыня Прысэліюс** Маё дзіця, хіба разумееш, што трэба табою заняцца. Мы павінны знайсці табе месца ў нейкім дзіцячым доме.

**Піпі** Але ж я жыву ў дзіцячым доме.

**Спадарыня Прысэліюс** Сапраўды? У якім? Хто гэта аформіў?

**Піпі** У гэтым! Я дзіця, а гэта мой дом. Значыць, гэта дзіцячы дом. У мяне тут шмат пакояў. Калі б нешта здарылася, тут увесь Камітэт абароны дзіцяці ўлезе.

**Спадарыня Прысэліюс** Я ніколі такога не чула! Ты пэўна і ў школу не ходзіш?

**Піпі** Дзякуй Богу, не!

**Спадарыня Прысэліюс** Але мусіш!

**Піпі** Чаму?

**Спадарыня Прысэліюс** Каб нечаму навучыцца, вядома!

**Піпі** Чаму?

**Спадарыня Прысэліюс** Нечаму неабходнаму і патрэбнаму.

**Піпі** Назавіце хаця б адну рэч.

**Спадарыня Прысэліюс** Ну для прыкладу... табліца множання.

**Піпі** Вы ведаеце? Я дзевяць год цудоўна жыла без нейкай табліцы і думаю жыць без яе надалей.

**Спадарыня Прысэліюс** Ці ты сапраўды хочаш ісці праз жыццё нічога не ўмеючы? Што будзе з табой, калі вырасцеш і не зможаш множыць?

**Піпі** Так, ясна. Гэта будзе страшна!

**Спадарыня Прысэліюс** Лепш падумай, як дрэнна жыць, не ведаючы нічога. Падумай, будзеш дарослай і нехта спытае для прыкладу... «Які горад сталіца Партугаліі?» А ты не адкажаш, бо ў дзяцінстве не хадзіла ў школу.

**Піпі** Вядома, я ведала б, што мне сказаць. Я б сказала: «Калі ты так хочаш ведаць, які горад сталіца Партугаліі, пішы непасрэдна ў Партугалію і папытай». А я дарэчы была з маім бацькам у Лісабоне.

**Спадарыня Прысэліюс** Бачу, цябе гэта зусім не хвалюе. Але ж будзе!

**Піпі** Чаму мне трэба хвалявацца?

**Спадарыня Прысэліюс** Ты павінна апынуцца ў сапраўдным дзіцячым доме, каб нехта табою заняўся.

**Піпі** Займайцеся сваёй табліцай вожкання і пакіньце мяне.

* * * * * * * * * * * * * * * *

**Піпі** *лічыць* Дзе ж я скончыла... семдзесят шэсць, семдзесят сем, семдзесят восем, семдзесят дзевяць, семдзесят дзесяць, семдзесят адзінаццаць, семдзесят дванаццаць, семдзесят трынаццаць, семдзесят сямнаццаць... Ух, у горле нібыта семка захрасла. Павінны ж быць і якія іншыя кручкі ў табліцы вожкання... Ага, цяпер успомніла: сто чатыры... тысяча...
Уваходзьце! Або стойце, дзе стаіце, як пажадаеце!

**Гром** Добры вечар!

**Блум** Добры вечар!

**Піпі** Вітаю. Як прыемна.

**Гром** Тваіх мамы і таты няма дома?

**Піпі** Іх няма. Зусім няма.

**Блум** Гэта добра!

**Гром** Ты зусім адна?

**Піпі** Ні ў якім разе. Спадар Нільсан таксама тут.

**Гром** Спадар Нільсан... разумею. Ён пэўна там, як разумею? Спадар Нільсан?

**Піпі** Так, гэта праўда. Спадар Нільсан там.

**Блум** А спадарыня Нільсан ?

**Піпі** Яе няма.

**Гром** Гэта сумна.

**Блум** Вельмі сумна.

**Гром** Мы толькі хацелі спытацца, колькі часу.

**Блум** Без пятнаццаці восем! Але мой гадзіннік... не працуе.

**Піпі** Разумею. Запрасіла б вас на каву, але ж іду спаць.

**Гром** Гэта разважна.

**Блум** Мо і пан Нільсан таксама ляжа!

**Піпі** Так. Ён ноччу надта сонны.

**Блум** Цудоўна!

**Піпі** Чаму?

**Блум** Калі людзі спяць, менш мяшаюць.

**Гром** Табе ідзе пра тое, што трэба высыпацца. Старэйшыя людзі патрабуюць шмат сну, праўда?

**Блум** Праўда? Так, святая праўда!

**Гром** Тады дабранач! Добрага сну!

**Піпі** Рада старацца! Да пабачэння! Ці, ці сказаў, што хочаш, каб я праспявала табе калыханку? Ці памятаеш тую, што спявала табе на моры? Ці ты, Піпі, таксама хочаш, каб я табе паспявала? Ну, калі просіш... Лепш сабе пахрапу, пакуль засну і ўсё!

**Томі** Піпі, дзе ты?

**Аніка** Няма яе ў хаце?

**Томі** Глядзі!

**Аніка** Піпі, чаму ты так ляжыш?

**Піпі** Заўсёды так сплю.

**Аніка** Але чаму?

**Піпі** Так спяць людзі ў Гватэмале. І добра ім спіцца. І раніцай немагчыма іх разбудзіць. Чаму вы прыйшлі?

**Томі** Хацелі сказаць табе дабранач.

**Піпі** Гэта прыемна.

**Аніка** Падумалі, што можа адчуваеш самоту.

**Томі** Калі ў цябе няма мамы і таты, каб табою займаліся.

**Аніка** Бо якраз ноччу робіцца сумна, калі наогул некаму можа быць сумна.

**Піпі** Не думаю сумаваць. Хаця гэта цяжка, калі ўзгадаю бацьку.

**Аніка** Якраз. А не сумуеш па маме?

**Піпі** Вядома, сумую. Але яна не зможа да мяне прыйсці, праўда? Не можа спусціцца з нябёсаў. А тата можа прыехаць. І пэўна прыедзе, калі буду доўга аб гэтым марыць і тужыць па ім.

**Аніка** Пэўна.

**Томі** Бачны ўсе зоркі!

**Аніка** Ведаеш, што можна прасіць жаданні ў зорак?

**Піпі** Сапраўды?

**Томі** Так, сярод зорак ёсць такія, што здзяйсняюць жаданні.

**Піпі** Цудоўна!

**Аніка** Дабранач, Піпі! Добрай ночы!

**Томі** Добрых сноў!

**Піпі** Пакуль! Да заўтра!

**Аніка** Не зачыняеш дзвярэй?

**Піпі** Не, навошта?

**Аніка** Бо нейкія ўзломшчыкі схочуць увайсці.

**Піпі** Таму добра, што адчыненыя.

**Томі** Ты здурэла.

**Піпі** Да ўзломшчыкаў таксама трэба ветліва ставіцца, праўда?

**Аніка** Ты надта ветлівая, Піпі.

**Томі** Гэта так. Дабранач, Піпі!

**Піпі** Дабранач.

**Гром** Глядзі, як яна ляжыць!

**Блум** Ну... Але галоўнае, што спіць як след.

**Гром** Але дзе Нільсан, як мяркуеш?

**Піпі** Спадар Нільсан ляжыць у зялёным лялечным ложачку.

**Гром** Блум! Спадар Нільсан — малпа! Ха-ха-ха!

**Блум** Так! Малпа! Я іх баюся!

**Піпі** Ага, а што ты думаў ён такое? Газонакасілка ці што?

**Гром** Чуеш, мая даражэнькая. Вылазь з ложка, каб мы маглі з табою пагутарыць.

**Пiпi** Не-а, я сплю.

**Гром** Але мы хочам цябе пра нешта спытаць.

**Пiпi** Вы зноў будзеце пытаць пра гадзіну? Гэта ўжо той час, каб вы ішлі спаць.

**Гром** Добра, але скажы нам дзе тыя грошы, што ляжалі на падлозе?

**Пiпi** У сакваяжы, на шафе.

**Гром** Спадзяюся, ты не супраць, каб мы іх узялі, даражэнькая?

**Пiпi** О, калі ласка! Я не супраць! Спадзяюся, ты не супраць, каб я ўзяла іх назад, даражэнькі.

**Гром** Без жартаў тут! Давай сюды сакваяж!

**Пiпi** Жарты туды і жарты сюды!

**Гром** Прабач, паненачка. Мы ж толькі пажартавалі.

**Блум** Так, так. Мы хацелі крыху пагуляць.

**Пiпi** Веру вам. Кожны любіць часам пагуляць. Умееце танчыць польку?

**Гром** Ну...

**Пiпi** Здарава! Я толькі што навучылася.

**Блум** Не веру!

**Пiпi** Пакажу вам! Калі ласка. А ты сыграй.

**Пiпi** Вы, мабыць, стаміліся? А як вам жывецца? У вас ёсць грошы?

**Гром** Няма.

**Блум** Мы бедныя як касцельная вош.

**Гром** Касцельная мыш!

**Блум** Касцельная мыш. Таму прыйшлі красці... гэта значыць танчыць.

**Пiпi** Калі ласка, хлопцы!

**Гром** Божачкі! Ты надта шчодрая!

**Блум** Незвычайна шчодрая!

**Пiпi** Вядома! А цяпер ідзіце!

**Разам** Дабранач!

**Пiпi** Вунь там зорка, якая здзяйсняе пажаданні. Зорачка, няхай татка прыедзе. Я так хачу! Не можаш? То няхай ён мне хаця прысніцца. І яшчэ няхай прысніцца мама. Добра? Зорачка! Прашу!

## Сцэна 2

**Ларсан** Спадзяюся, дзяўчынка ў хаце і зможам яе адразу забраць.

**Кланг** Чым хутчэй, тым лепш.

**Ларсан** Ты можаш паверыць? Дзіця жыве ў такіх умовах?

**Кланг** Нам трэба неадкладна процідзейнічаць.

**Ларсан** Цыыыы! Гэта яна.

**Пiпi** Ой! Сёння, пэўна, ізноў мой шчаслівы дзень. Я люблю паліцэйскіх больш за ўсё на свеце.

**Кланг** Гэта добра.

**Ларсан** Ці завуць цябе Пiпi?

**Пiпi** Так. А ты думаў, я прынцэса з Абісініі?

**Ларсан** Надта смешна.

**Пiпi** Рада старацца. Пайшлі!

**Кланг** Годзе блазнаваць! Мы не прыйшлі, каб гуляць.

**Ларсан** Забіраем цябе ў дзіцячы дом. Там шмат дзяцей і ты будзеш там з імі гуляць.

**Пiпi** О, дзякуй вам.

**Томі, Аніка** Але ж, Пiпi...

**Пiпi** А можна ўзяць з сабою каня ў гэты ваш дзіцячы дом?

**Кланг** Безумоўна, не.

**Пiпi** Я так і думала. А малпу? Малую, міленькую малпачку?

**Ларсан** Гэта ж не заапарк.

**Пiпi** Ну, тады шукайце дзяцей для вашага дзіцячага дома ў іншым месцы. Я туды не паеду.

**Кланг** Мусіш. Тут трэба навесці парадак!

**Томі** Але мы хочам, каб яна заставалася тут.

**Аніка** Пiпi, заставайся з намі!

**Кланг** Пiпi, заставайся з намі! Не ёй гэта вырашаць.

**Ларсан** Малыя дзеці робяць тое, што вырашаюць дарослыя. На жаль, мы вырашылі, што Пiпi ідзе ў дзіцячы дом.

**Пiпi** Прашу прабачэння, але Пiпi вырашыла, што застаецца ў Віле Кавардакуле.

**Кланг** Папярэджваю, калі ты будзеш упарціцца, я буду такі злосны, такі злосны!

**Ларсан** О, злосны Кланг небяспечны.

**Пiпi** Сапраўды? Мой дзядуля быў такі. Калі быў злосны, укусіў сябе ў нос да крыві.

**Ларсан** Укусіў сябе ў нос? Як?

**Пiпi** Ускараскаўся на крэсла...

**Кланг** Лухта! Годзе ўжо! Ідзеш з намі!

**Пiпi** У майго дзеда быў самы доўгі нос на свеце. На ім сядзела пяць таўшчэзных папугаяў.

**Ларсан** Недарэчнасць! Не веру ў ніводнае тваё слова!

**Пiпi** У якое?

**Кланг** У якое? У тое, што пяць таўшчэзных папугаяў сядзела на носе твайго дзядулі і ўсе іншыя дурноты.

**Пiпi** Гэта праўда. Я зманіла.

**Кланг** Не цяжка здагадацца.

**Пiпi** Не так лёгка вам зманіць. Вядома, пяць папугаяў не змагло сядзець на носе дзядулі. Пяты стаяў на адной назе.

**Кланг** Годзе ўжо!

**Ларсан** Нельга рабіць з нас дурняў. Забіраем цябе з сабой.

**Пiпi** Тады лавіце! Квач!

**Кланг** Каханая Пiпi, можа, зробіш ласку і паставіш драбіны.

**Ларсан** Каханая Пiпi, можа, зробіш ласку і паставіш драбіны.

**Пiпi** Вось так трэба звяртацца да людзей. Гэта не сапраўдныя паліцэйскія. Надта нервовыя.

**Аніка** Застаешся?

**Томі** Уяві, як весела нам было б ісці дадому са школы разам.

**Аніка** У школу таксама.

**Томі** Ты проста не ўяўляеш сабе, якая ў нас добрая настаўніца.

**Аніка** Каб ты толькі ведала, як весела хадзіць у школу. Я б з глузду з'ехала, калі б не магла туды хадзіць!

**Томі** І не так ужо доўга прыходзіцца там сядзець — толькі да другой гадзіны.

**Аніка** Ды яшчэ бываюць калядныя вакацыі, велікодныя вакацыі і летнія вакацыі.

**Пiпi** Гэта несправядліва.

**Томі** Што?

**Пiпi** Гэта цалкам несправядліва. Гэта цалкам несправядліва.

**Аніка** Што такое?

**Пiпi** Ды тое, што ў вас калядныя, велікодныя і летнія вакацыі. А ў мяне няма!

**Томі** Але ты не ходзіш у школу.

**Пiпi** Гэта трэба змяніць. Пайду ў школу і ў мяне будуць святочныя канікулы. Гэта будзе справядліва. Галоўнае справядлівасць.

**Пiпi** Прывітусі! Я паспела на табліцу вожкання?

**Настаўніца** Вітаю цябе, дарагая Пiпi.

**Пiпi** Вялікі дзякуй!

**Настаўніца** Спадзяюся, табе тут спадабаецца.

**Пiпi** Вядома. Вялікі дзякуй.

**Настаўніца** Спадзяюся, ты навучышся шмат чаму новаму.

**Пiпi** Дзякую. А я спадзяюся, што ў мяне будуць калядныя вакацыі. Таму я сюды і прыйшла.

**Настаўніца** Калядныя вакацыі? Гэта пазней. Сядай, калі ласка за той партай, Піпі.

**Піпі** *свішча*

**Настаўніца** Малая Піпі, у школе нельга свістаць. Добра. Цяпер праверым трохі твае веды. Ты ўжо вялікая дзяўчынка і, напэўна, ведаеш нямала.

**Піпі** Шчыра кажучы, ведаю амаль усё!

**Настаўніца** Ну, Піпі, можаш ты сказаць мне, колькі будзе сем плюс пяць?

**Піпі** Ну, калі ты не ведаеш гэтага сама, дык і не разлічвай, што я вазьму і скажу табе.

**Настаўніца** Піпі, у школе нельга тыкаць, трэба звяртацца да настаўніцы на «вы». Каб ты знала, сем плюс пяць будзе дванаццаць.

**Піпі** Бач ты!Ты ж сама гэта ведала, навошта тады пытацца? Ой, ну я і дурніца, зноў сказала табе «ты»! Прабач!

**Настаўніца** Калі ласка.

**Піпі** Калі вы гэта ведалі, навошта пыталі ў мяне?

**Настаўніца** Каб цябе навучыць.

**Піпі** А чаму мне трэба вучыцца, што сем плюс пяць будзе дванаццаць? Няхай будзе колькі хоча.

**Настаўніца** Дурненькая. Хіба не разумееш. Ну, а колькі будзе восем плюс чатыры?

**Піпі** Вы нічога не робіце толькі ставіце пытанні. Колькі? Прыкладна шэсцьдзесят сем.

**Настаўніца** Зусім не! Восем плюс чатыры будзе дванаццаць.

**Піпі** Ну, даражэнькая мая, гэта ўжо пачынае заходзіць надта далёка! Ты ж сама толькі што заявіла, што дванаццаць гэта сем і пяць. Які-ніякі парадак павінен быць нават у школе.

**Настаўніца** Бачу, ты лічыць не ўмееш.

**Піпі** Калі ты ўжо так па-дзіцячаму ўлюбёная ў гэтую лухту, чаму б табе не сесці ў куток і не заняцца лічэннем самой. А мы маглі б пагуляць.

**Настаўніца** Піпі, ты не разумееш, што ў школе трэба вучыцца. Адпачні крыху, а мы праверым іншых вучняў.

**Піпі** Файна, што магу адпачыць. Ну і стамілася!

**Настаўніца** Мо Томі адкажа мне на наступнае пытанне? Калі ў Лізы сем яблыкаў, а ў Аксэля дзевяць, колькі яблыкаў у іх разам?

**Піпі** Так, адкажы на гэта Томі! І яшчэ адкажы, дзе яны свіснулі тыя яблыкі?

**Томі** У іх шаснаццаць яблыкаў.

**Настаўніца** Добра.

**Піпі** Шаснаццаць яблыкаў? Ад гэтага разбалецца жывот і хто будзе ў гэтым вінаваты?

**Настаўніца** Піпі, змоўкні ўжо! Аніка, паслухай прыклад. Густаў пайшоў са

сваім класам на экскурсію. Калі ён выйшаў з дому, у яго была адна карона, а калі вярнуўся — сем орэ. Колькі ён патраціў?

**Пігі** Адкажы, Аніка. Хацела б і я знаць, чаго ён там набыў, салодкай газіроўкі, ці што? А вушы ён памыў, перш як выйсці з дому? І калі была гэтая экскурсія?

**Настаўніца** Пігі, калі ласка! Густаў гэта толькі прыклад.

**Пігі** Нічога сабе прыклад. Пускае грошы на вецер.

**Настаўніца** Дзеці, спыняем лічэнне. Пігі, як тваё чытанне?

**Пігі** Адкуль мне ведаць? Я ніколі не рабіла гэтага.

**Настаўніца** Вось, Пігі, паглядзі на гэты вясёлы малюнак. Ты бачыш вожыка, у якога на спіне іііііііголкі. І гэтая літара перад ім — яна называецца «і».

**Пігі** Я лічу, што яна выглядае як простая рыска з наседжанай мухамі плямкаю над ёй.

**Настаўніца** А вось тут змяя. А літарка пры малюнку гэта «з».

**Пігі** Я ніколі не забудуся на той выпадак, калі мне давялося біцца з гіганцкай змяёй у Індыі. Чатырнаццаць метраў даўжыні і злосная, як пчала, і кожны дзень яна з'ядала пяцёх дарослых індыйцаў і двух маленькіх дзяцей. І аднойчы яна хацела з'есці мяне, але я яе — бац па галаве, а яна як закрычыць, а я яшчэ раз — бац! І яна памерла, ага, значыць гэта літара «з», вельмі дзіўна!

**Настаўніца** Пігі, хопіць ужо!

**Пігі** Ты ведаеш, ці бо ты ведаеце. Тут зашмат яблыкаў, вожыкаў, змей і ўсяго такога. Мне галава круціцца. Спадзяюся, што ты не зажурыцеся, калі я пайду дадому.

**Настаўніца** У мяне сапсаваўся настрой з-за паводзін малой дзяўчынкі.

**Пігі** Я паводзілася кепска?

**Настаўніца** На жаль, так.

**Пігі** Дык я ж гэтага не ведала.

**Настаўніца** Можа ты не ўмееш інакш сябе паводзіць?

**Пігі** Ты разумееце, калі ў чалавека мама анёл, а тата негрыцянскі кароль, а сам гэты чалавек усё жыццё плаваў па марах і акіянах, дык тады вельмі цяжка ведаць дакладна, як трэба паводзіцца ў школе сярод усіх яблыкаў і вожыкаў з іголкамі.

**Настаўніца** Разумею, Пігі. Прыйдзі зноў у школу, калі трохі падрасцеш.

**Спадарыня Гранбэрг** Якія ў вас цудоўныя дзеткі! І якія паслухмяныя!

**Спадарыня Сэтэргрэн** Не магу наракаць.

**Спадарыня Гранбэрг** Дык, няма на што. Паслухмяныя, ветлівыя і спакойныя. Надта прыемна праводзіць з імі час.

**Голас Пігі** Дружына, СТОЙ! Наперад РУШ!

**Спадарыня Сэтэргрэн** О божухны!

**Спадарыня Прысэліюс** Што тут адбываецца?

**Пiпi** Дружына, СТОЙ! Рукі наперад, РАЗ, ДВА! Калені ЗП-НАЙ! Рэч у тым, што я даволі сарамлівая.Так што калі б я не змушала сябе камандамі, дык усё яшчэ ўпарта стаяла б на ганку і не наважылася ўвайсці.

**Спадарыня Сэтэргрэн** Ну што ж, вітаю цябе малая Пiпi!

**Пiпi** Вельмі міла з вашага боку, што вы мяне запрасілі. Я ніколі раней не бывала на званым кававанні!

**Спадарыня Сэтэргрэн** Гэта прыемна. А цяпер ідзі да Томі і Анікі.

**Аніка** Так, хадзі да нас.

**Томі** Хочаш паглядзець нашы здымкі?

**Пiпi** Добра, але спачатку прывітаю цудоўных жанчын. Добры дзень спадарыня Прысэліюс! Памятаеце нашу апошнюю сустрэчу? Весела было!

**Спадарыня Прысэліюс** Ці ты не ведаеш, што рыбы і дзеці не маюць голасу?

**Пiпi** Ці вы таксама з Камітэта абароны дзіцяці?

**Спадарыня Гранбэрг** Не, каханая.

**Пiпi** Сапраўды, вы чароўная!

**Аніка** Пiпi, ідзі да нас!

**Спадарыня Сэтэргрэн** Так, здаецца, будзе лепш, калі ты пасядзіш з Анікай і Томі. Так, хопіць. Дык, дарагія спадарыні, можам пачынаць.

**Пiпi** Цур, я першая!

**Спадарыня Сэтэргрэн** Ці ты не ведаеш, што дзецям трэба пачакаць сваёй чаргі?

**Пiпi** Як гэта чакаць сваёй чаргі? На моры мы ніколі так не рабілі.

**Спадарыня Сэтэргрэн** Але ж ты не на моры.

**Пiпi** Гэта праўда. Але паглядзіце на іх! У іх выгляд быццам бы паміралі ад голаду. Нічога не застанецца, калі яны дабяруцца да падвячорка першымі. Не абдураць мяне!

**Спадарыня Сэтэргрэн** Томі і Аніка навучыліся чакаць сваёй чаргі.

**Пiпi** Бедныя дзеці будуць чакаць і памруць з голаду.

**Спадарыня Гранбэрг** Якое жудаснае дзяўчо!

**Спадарыня Прысэліюс** Нехта павінен ёю заняцца.

**Спадарыня Гранбэрг** Страшэнная дзікунка.

**Спадарыня Сэтэргрэн** Ведаеш Пiпi, я стараюся, каб мае дзеці былі паслухмянымі.

**Пiпi** Я вас разумею. Не перажывайце. Магу вам у гэтым дапамагчы. У вас шмат спраў на галаве. Аніка, не будзеш цяпер калупаць у носе, што?

**Аніка** Вядома, не буду!

**Піпі** Вельмі добра. Памятай, сапраўдная дама калупае ў носе, калі яна адна.

**Аніка** Ціііііі!

**Піпі** Томі, спадзяюся, ты не плюеш на падлогу!

**Томі** Вядома, не плюю!

**Піпі** Паслухмяны хлопец! А ці ты калі-небудзь паспрабаваў пляваць на столь? Гэта складана. Паглядзі!

**Спадарыня Сэтэргрэн** Піпі, годзе ўжо!

**Піпі** Праўда. Не ўсё зможам вывучыць у адзін дзень, бо нічога не запамятаеш. Заўтра правяду чарговы ўрок. Неўзабаве навучацца, як трэба сябе паводзіць. Не перажывайце.

**Спадарыня Прысэліюс** Нязноснае дзіця.

**Спадарыня Сэтэргрэн** Іду па торт. Томі, Аніка! Спадзяюся ўсё як мае быць?

**Спадарыня Прысэліюс** Нехта павінен заняцца гэтым дзіцем. Ужо я дагледжу!

**Спадарыня Сэтэргрэн** Калі ласка, вось вам торт!

**Спадарыня Гранбэрг** Шкада рэзаць...

**Спадарыня Сэтэргрэн** Прашу частавацца.

**Піпі** Паглядзіце на гэтую вішаньку, што пасярэдзіне. Я ўпэўненая, што змагу злавіць яе зубамі нат не дакранаючыся да смятаны.

**Аніка** Піпі! Што ты нарабіла?

**Піпі** Блін! Я паспяшыла! Гэта незнарок!

**Спадарыня Сэтэргрэн** Што ты робіш, кашмарнае дзіцё!

**Піпі** Прашу прабачэння. У мяне быў няшчасны выпадак!

**Спадарыня Сэтэргрэн** О не, ты не няшчасны выпадак! Ты катастрофа!

**Аніка** Мама, нельга так гаварыць!

**Піпі** Гэта ж праўда, Аніка. Адна кашмарная катастрофа.

**Спадарыня Сэтэргрэн** Ты больш не прыйдзеш сюды, калі будзеш паводзіць сябе так кепска!

**Піпі** Так я і думала, што не ўмею паводзіць сябе. Няма сэнсу і спрабаваць, я ніколі гэтаму не навучуся! Лепш бы я засталася на караблі.

**Спадарыня Сэтэргрэн** Гэта праўда.

**Томі** Мама, нельга такое казаць!

**Спадарыня Сэтэргрэн** Магу так гаварыць. Прашу прабачэння. Цяпер не зможаце з'есці торта.

**Піпі** Але ж тут шмат яго! І ён надта смачны. Хочаце пакаштаваць?

**Спадарыня Прысэліюс Спадарыня Гранбэрг** Не, дзякую!

**Піпі** А вы? Ці хто-небудзь хоча хаця трошачкі?

**Спадарыня Сэтэргрэн** Табе ўжо час ісці дадому.

**Піпі** І я так думаю. Смуткую за таткам. Тыддэліппом, піддэлідэй.

**Спадарыня Прысэліюс** Нехта павінен заняцца гэтым дзіцем. Ужо я дагледжу!

**Піпі** Прывітанне! Як там Камітэт абароны дзіцяці?

**Спадарыня Прысэліюс** Непаслухмяная Піпі як заўсёды.

**Піпі** Але ж мяне не навучылі ніякіх манер, праўда? Вы ўжо закінулі гэтую думку?

**Спадарыня Прысэліюс** Ты думаеш, мы пра цябе забылі?

**Піпі** Спадзяюся, так. Апошнім часам было ўжо так спакойна і прыемна.

**Спадарыня Прысэліюс** Не, не забылі пра цябе. Гавару сур'ёзна, што не можаш жыць тут без бацькоў.

**Піпі** А колькі разоў мне трэба паўтараць, што ў мяне ёсць бацькі.

**Спадарыня Прысэліюс** Так, маці ў нябёсах, а бацька недзе на Паўднёвым моры.

**Піпі** А вы думаеце, я перасялюся ў дзіцячы дом, так?

**Спадарыня Прысэліюс** Не, прапануем іншае рашэнне. Спадзяюся табе спадабаецца. Будзеш жыць са мной, малая Піпі.

**Піпі** З вамі? Вы хочаце? З канём на верандзе, малпай у валасах і са мной у торце?

**Спадарыня Прысэліюс** Пра каня і малпу я нат не думала.

**Піпі** Дык пра што вы думаеце?

**Спадарыня Прысэліюс** Хачу даглядаць цябе, Піпі. Хачу быць тваёй мамай.

**Піпі** Сапраўды? Барані Божа!

**Спадарыня Прысэліюс** Не можаш так тут жыць і дзічэць. Прыйшоў час на нармальнае жыццё і паводзіны!

**Піпі** Ага!

**Спадарыня Прысэліюс** Будзеш са мной шчаслівай. У цябе будзе свой пакой і ўсё астатняе.

**Піпі** Дзякую за прапанову, але застаюся ў Віле Кавардакуле.

**Спадарыня Прысэліюс** Калі так, паліцыя мне дапаможа. Ну добра. Цяпер ужо ведаеш.

**Піпі** Ну добра. Цяпер ужо ведаю.

**Капітан** Тыддэліппом, піддэлідэй.

**Піпі** Тата? Тата!

**Капітан** Піпі, мая сяброўка!!!

**Піпі** Гэта праўда? Гэта сапраўды ты? Я сумавала па табе кожны дзень!

**Капітан** А я кожны дзень сумаваў па табе!

**Піпі** Я ведала, што ты не патануў!

**Капітан** Я б патануў? Не! Мой жывот данёс мяне да бліжэйшай выспы.

**Піпі** Тата, табе трэба пазнаёміцца з Томім і Анікай. Гэта мае сябры. Мы класна гуляем.

**Капітан** Прыемна пазнаёміцца! Гэта наша Піпі! Самы добры стырнавы на Сямі Марах!

**Піпі** Ае, ае, самы добры капітан!

**Капітан** Наш карабель чакае. Заўтра плывем!

**Томі** Так хутка!

**Капітан** Ці ты надалей такая дужая?

**Піпі** Яшчэ дужэйшая. Ты ўжо, здаецца, не самы дужы чалавек на свеце. Толькі я.

**Капітан** Гэта так. Ты сапраўды самая дужая на свеце!

**Томі** Піпі, ідуць!

**Піпі** Спадарыня Старшыня?

**Томі** Так, з паліцыянтамі!

**Капітан** У чым справа?

**Піпі** Тата, хавайся ў скрыню.

**Кланг** Піпі, годзе жартаў. Ідзеш з намі ў дом спадарыні Прысэліюс!

**Спадарыня Прысэліюс** Ну і паліцыянты! Не даюць рады з малой дзяўчынкай.

**Ларсан** Калі ласка, паспрабуйце вы!

**Спадарыня Прысэліюс** Малая Піпі, будзь разважнай. Нехта павінен займацца такой сіратой.

**Піпі** Я ніякая сірата.

**Спадарыня Прысэліюс** Вось, бачыце! Прыкідваецца, што яе бацька жыве на нейкай выспе на Паўднёвым моры.

**Кланг** Хочаш скласці такую дэкларацыю? Ларсан, пішы.

**Піпі** Не, мой тата не жыве на ніякай выспе на Паўднёвым моры.

**Ларсан** «У яе няма бацькі на Паўднёвым моры...»

**Спадарыня Прысэліюс** Ты ўвесь час так гаварыла! Маніш без перапынку! У цябе няма бацькі!

**Ларсан** «Няма бацькі...»

**Піпі** Ёсць!

**Ларсан** «Ёсць бацька...»

**Спадарыня Прысэліюс** Я здурэю!

**Ларсан** «Я здурэю!»

**Спадарыня Прысэліюс** Ты ж так гаварыла...

**Піпі** Так, у мяне ёсць тата. Але не жыве на выспе на Паўднёвым моры.

**Ларсан** «Не на Паўднёвым моры...»

**Спадарыня Прысэліюс** Сапраўды? Дык дзе ж гэты твой тата? Можа ў нябёсах?

**Піпі** Не, не ў нябёсах...

**Ларсан** «Не ў нябёсах».

**Піпі** У скрыні... Там!

**Ларсан** «У скрыні». Там? Што?

**Кланг** Што?

**Спадарыня Прысэліюс** Што?

**Усе трое** У скрыні?

**Спадарыня Прысэліюс** Во якая! Цяпер кажа, што бацька ў скрыні. Яна здурэла.

**Ларсан** Прашу памалей!

**Піпі** Вы не верыце? Не верыце, што мой татка ў скрыні?

**Спадарыня Прысэліюс** Не, не веру, што твой бацька ў скрыні, ці дзе-небудзь яшчэ.

**Капітан** Капітан Панчоха... Прыемна пазнаёміцца! Што тут адбываецца Піпі? Табе трэба ўжо на палубу.

**Піпі** Так, капітан.

**Капітан** Наперад!

**Піпі** Да пабачэння татка.

**Капітан** Што ты робіш? Не плывеш з намі?

**Піпі** Не магу! Не, калі яны такія нешчаслівыя.

**Капітан** Перахварэюць.

**Піпі** Не магу плысці, калі ведаю, што Томі і Аніка тут плачуць. Не магу, татачка!

**Капітан** Разумею... Гм... Ты заўсёды робіш тое, што лічыш адпаведным. Заўсёды так было.

**Піпі** Так было заўсёды. Для дзіцяці, здаецца, лепш, калі ў яго сапраўдны дом, а не плаванне ўвесь час па моры.

**Капітан** У Віле Кавардакуле будзе больш арганізаванае жыццё. І так пэўна лепш дзіцяці.

**Піпі** Вядома! Дзеці павінны быць арганізаванымі. Асабліва, калі самі могуць арганізавацца.

**Капітан** Праўда!

**Піпі** Татка!!! Буду сумаваць па табе!

**Капітан** І я па табе!

**Піпі** Мусіш мяне наведваць!

**Капітан** Так і будзе!

# Людміла Грыгарук:

# «Я адчуваю адказнасць за будучыню беларусаў»



Ганна КАНДРАЦЮК

Майскія выхадныя азмрочыла вестка пра смерць Людмілы Грыгарук. Памерла пасля доўгай анкалагічнай хваробы 2 мая г.г. у сваёй хаце. Дзень пазней яе пахавалі на гайнаўскіх праваслаўных могілках, што па дарозе ў Белавежу. Не хапае слоў, каб выказаць смутак і жаль з прычыны смерці настаўніцы-сяброўкі. Мая апошняя гутарка-апытальнік з Людмілай Грыгарук патрапіла ў ніўскі прэстыжны нумар з календаром на 2020 год. Загаловак — «Я адчуваю адказнасць за



будучыню беларусаў» — гучыць як жыццёвае крэда. Люся такая была: уражлівая, салідная, адказная. Мы разам пачыналі вучобу ва Варшаўскім універсітэце і першы год жылі ў інтэрнаце ў адным пакоі. З першых дзён мы шчыра пасябравалі, ды пасябравалі на ўсё жыццё. І зараз, калі ўзяла я ў рукі той апытальнік-гутарку, мяне змарозілі словы сяброўкі. На пытанне, што яе палохае, стамляе, яна адказала: «Палохае мяне тое, што жыццё так хутка праходзіць». Ці прадчувала свой канец? Калі глянуць шырэй, дык у яе жыцці ўсё адбылося хутчэй. У гады студэнцтва, калі міжэкзаменны час здаваўся безупыннай імпрэзай і мы карысталіся прывілеямі студэнцкага жыцця, яна ездзіла на радзіму даглядаць дачушку і мужа. Пасля вучобы раскруціла бізнес, які пакінула для прафесіі настаўніцы. Яе прыход адразу прыкмецілі ў Гайнаўцы. Я сама ўдзячна ёй за дзясяткі сустрэч, нашы этнічныя размовы і таленавітых вучняў, якіх Людміла высылала на Сустрэчы «Зоркі». І хіба найбольш за тое, што не трэба было ёй талкаваць пра карысць ад падпіскі на «Ніву» і яе значэнне для развіцця беларускага асяроддзя. Яна сама гэта ведала і разумела.

* * *



**Словы пра Людмілу Грыгарук выказалі яе сябры, настаўнікі роднай мовы і яе вучні.**

**Ян Карчэўскі:**

— З Люсяй я пазнаёміўся ў час вучобы на беларускай філалогіі ў Варшаве. Потым даўжэйшы час з ёй не сустракаўся, а нашы кантакты абнавіліся, калі я стаў настаўнікам беларускай мовы ў Гайнаўскім белліцэі ды пачаў наладжваць розныя адукацыйна-культурныя мерапрыемствы. Люся з самага пачатку падтрымала ідэю конкурсу беларускай гавэнды, рыхтавала сваіх навучэнцаў, якія часта займалі першыя месцы. Потым паявіліся Мастацкія сустрэчы школьнікаў і тут мая сяброўка з пачатковай школы таксама не падвяла. Яе вучні на сцэне Гайнаўскага белмузея выступалі з вельмі цікавымі інсцэніроўкамі, у якіх аднолькава было відаць талент вучняў, як і настаўніцы. Вялікай заслугай Люсі быў несумненна той факт, што разам з яе прыходам на працу ў гайнаўскую школу, рашуча там папраўіўся стан навучання беларускай мове. Жаль, што так хутка адышла.

**Людміла Грыгарук** (з дому Данілюк) нарадзілася ў 1964 годзе ў вёсцы Кнаразы, што на Бельшчыне. Закончыла эканамічны ліцэй у Бельску-Падляшскім, пасля паступіла ў Варшаўскі ўніверсітэт, дзе закончыла беларускую і рускую філалогіі. За сваю педагагічную працу атрымала многа ўзнагарод і падзяк ад дырэктара школы ў Дзень настаўніка, два разы атрымала ўзнагароду бургамістра горада Гайнаўка, узнагароду куратара — медаль Камісіі Нацыянальнай Адукацыі. У 2004 годзе перамагла ў конкурсе «Настаўнік года па беларускай мове» за напісанне праграмы навучання для класаў IV-VI «Ад верасня да жніўня». Атрымала таксама ганаровую грамату Гродзенскага аблвыканкама за ўдзел у міжнародных праектах. З-пад яе рукі выйшла за сорак лаўрэатаў прадметных конкурсаў. У апытальніку, на пытанне як бачыць будучыню беларусаў, яна адказала: «Я, як настаўніца беларускай мовы, адчуваю адказнасць за будучыню маладых беларусаў, за фарміраванне іх тоеснасці. Аднак будучыня залежыць ад многіх фактараў. Закончу словамі Франіцшка Багушэвіча: „Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмерлі”».

**Валя Бабулевіч:**

— Вялікай нечаканасцю для мяне была сумная вестка пра смерць маёй сяброўкі Люсі, цудоўнай і адданай вучням і беларускай справе настаўніцы, якую я атрымала ад настаўнікаў з Гайнаўкі. Я ведала пра яе цяжкую хваробу, але верыла, што яна яе пераможа, дзякуючы сваёй вялікай волі жыцця і моцнаму характару. Адразу ўспомніліся мне словы маёй святой памяці бабулі, якая заўсёды гаварыла, што ў пасхальны перыяд паміраюць людзі заслужаныя ў Бога. Я перакanaна, што Люся сваёй адданасцю працы і сям'і заслужыла ў Бога і застанецца ў памяці многіх. Як шкада што мы ўжо не сустрэнемся на кленіцкіх могілках у Міраносную нядзею і не прывітаемся радасна Хрыстос Уваскрос, не пагаворым на Спаса пра прыгатаванне да новага школьнага года. Няхай Табе зямля пухам будзе, Дарагая Сяброўка!

**Аліна Ваўранюк:**

— Людміла Грыгарук была адной з найбольш адданых беларускай адукацыі настаўніц. Яна старалася пашырыць круг навучэнцаў. Арганізавала ўрокі так, каб зацікавіць вучняў не толькі беларускай мовай, але і нашай традыцыйнай культурай. Памятаю «Беларускі дзень» у Пачатковай школе № 4 у Гайнаўцы, які яна арганізавала. Гэта было сапраўднае свята ўсіх вучняў і настаўнікаў. Сваім вопытам дзялілася з іншымі. Яна — аўтарка праграмы для навучання беларускай мове ў класах IV-VI «Ад верасня да жніўня», якой і я карысталася ў сваёй працы. З Люсяй цікава было пагаварыць не толькі пра школьныя справы. Яна гаварыла, але і ўмела слухаць. Была шчырай і добрай жанчынай. Няхай родная зямелька будзе Ёй пухам!

**Беата Кендысь:**

— З Людмілай я пазнаёмілася 18 гадоў таму, калі пачынала сваю настаўніцкую працу. Адразу мы знайшлі супольную мову і палюбіліся. Праз гэтыя гады мы ніколі не пасварыліся. З радасцю ўспамінаю «акенцы», калі мы не паспявалі зрабіць таго, што планавалі, бо заўсёды было пра што пагаварыць. Калі мне званіла Людміла, у маёй хаце ведалі, што нам зойдзе на гэтым гадзінка. Людміла, сардэчная, вельмі цёплая асоба, проста добры чалавек. Любіла дзяцей, моладзь. Хацела ўсіх заахвоціць да вывучэння беларускай мовы і шмат зрабіла для іх развіцця. Калі арганізавала розныя мерапрыемствы, сустрэчы, ці рыхтавала дзяцей да конкурсаў, рабіла гэта з запалам, старанна. Дзеткі таксама з ахвотай прыходзілі на ўрокі. Перад усім любілі, калі Людміла расказвала пра мінулае, пра традыцыі, і проста так на розныя тэмы. Працавалася мне з сяброўкай вельмі камфортна, я заўсёды магла разлічваць на яе дапамогу, падтрымку, прамы падказ. Я заўсёды цаніла Людмілу за яе працу, падыход да вучняў, настаўнікаў. Шмат мы разам добрага перайшлі ў жыцці. За гэта я ёй удзячна.

**Анжэліка Масальская:**

— Калі Людміла прыйшла ў ПШ № 6, (сёння гэта ПШ № 4), у школе павысіўся ўзровень навучання. Ніякая іншая гайнаўская пачатковая школа

ніколі не зраўнялася з «шасцёркай». У Людмілы заўсёды было многа лаўрэатаў прадметных конкурсаў. Я пазнаёмілася з ёй як маці, якой сын хадзіў на ўрокі роднай мовы з першага класа пачатковай школы па апошні клас гімназіі. А трэба сказаць што заняткі часта адбываліся на 7 або і 8 уроку. Людміла гэта разумела і рабіла ўсё, каб у лёгкі спосаб перадаць веды, зацікавіць беларускасцю. Гэта вялікая праца. Дзякуючы ўрокам беларускай мовы сын некалькі разоў ездзіў на экскурсію ў Беларусь. Мы таксама прымалі ў хаце вучня, які на запрашэнне школы прыехаў з Берасця. Людміла мела добры кантакт з бацькамі. Калі ў школе набліжаўся «Беларускі дзень», усе хацелі дапамагаць. Нават цёці і бабулі выпякалі пірагі і ўсякія смакоцці. У гэтым была спантаннасць і сэрца. Я пад вялікім уражаннем асобы Людмілы, якая ўмела так закруціць справу, прытым астацца сціплай, даступнай асобай. Як настаўніца, якой прыходзіцца працаваць на 7 і 8 уроку, разумею яе адданасць справе. Але самой адданасці мала — патрэбны яшчэ вынікі. Асабліва цешыць, калі ў школе маюцца лаўрэаты прадметных конкурсаў па беларускай мове. Тады ўсе глядзяць з большым прызнаннем. У гэтай справе Людміла для мяне заўсёды была ўзорам і натхненнем.

**Давід Якубоўскі:**

— З вялікім жалем я ўспрыняў звестку пра смерць спадарыні Людмілы Грыгарук. Я меў тое шчасце быць яе вучнем, пасля пад яе кірункам адбываў студэнцкую стажыроўку. З сённяшняй перспектывы я магу сказаць пра вялікую ангажаванасць спадарыні Людмілы, пра яе вернасць ідэалам і высакародную бескарыснасць. Я хачу падзякаваць ёй ха падрыхтоўку да прадметнага конкурсу па беларускай мове, за тое, што яна ўмела матываваць, прысвяціць свой час вучню і прывесці да поспехаў. Дзякую ёй ха цеплыню сэрца, якой яна абдарыла кожнага з нас. Буду пра яе памятаць, маліцца за яе. Няхай Усявышні падаруе ёй Царства нябеснае.

**Ева Іванюк:**

— Настаўніца Людміла заўсёды была незвычайнай настаўніцай і асобай. Яна старалася зацікавіць вучняў роднай мовай. Мне запамятаўся асабліва адзін дзень, гэта было летам і я ўжо збіралася ехаць на нейкі летнік. Раптам пазваніла мне настаўніца Людміла і сказала, каб я паехала ў Беларусь (засталося адно свабоднае месца). Яна вельмі хацела, каб я мела магчымасць убачыць прыгожую краіну, так блізкую яе сэрцу. Калі пачаўся чарговы школьны навучальны год, мы часта размаўлялі з настаўніцай пра падарожжы. Я да канца жыцця буду ўдзячнай ёй за гэту паездку, за дабрыню сэрца, за натхненне, якое яна ўлівала ў нашы галовы і сэрцы.

**Ганна КАНДРАЦЮК**
Фота з архіва аўтара

# Змест

**Рэдакцыйная калегія:** Аліна Ваўранюк,
Ялантa Грыгарук,
Ян Карчэўскі

**Карэктура:** Віталь Луба
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі
**Рэдактар:** Мікола Ваўранюк

**Выдавец:** Аб'яднанне ў карысць дзяцей і моладзі,
якія вывучаюць беларускую мову АБ-БА

**Друк:** Koncept Białystok

**Zrealizowano dzięki dotacji
Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji**